№ 40 (249) 1 кастрычніка 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## WELCOME MTC!

### Паўмільёна беларусаў неўзабаве дазволіць сабе мабільнікі.

Вынікі спрэчнага тэндэру.

Старонка 2.



ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Або захаваем, або...

*Грамадзкасьць супраць "Белгіпрадору" і "Камкону" ў Курапатах і Старым Менску*

Найважнейшай падзеяй тыдня стала барацьба за Курапаты. Сталічную кальцавую дарогу рэканструююць. Каб ашчадзіць капейку, "Белгіпрадор" пашырае яе і ў бок тае часткі курапацкага лесу, у якой у савецкі час стралялі людзей.

Шаша мае прайсьці проста над крыжамі. Будаўніцтва зьбіраюцца скончыць налета. Нібыта спэцыяльна, у прадчуваньні пратэстаў, дарожнікаў прывезьлі з Магілёўшчыны — такіх, якія пра нэкропаль і ня чулі.

Бунт узьняўся стыхійна. Спачатку нехта, выпадкова пабачыўшы, як сякуць дрэвы ва ўрочышчы, пачаў сарамаціць будаўнікоў за іх дзікунства. Вестка паляцела па Менску, і актывісты "Мартыралёгу", "Эўрапейскага шляху" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскае Партыі пачалі вешаць на шляху бульдозэраў крыжыкі і абразы. А калі і гэтае не дапамагло, дык маладафронтаўцы паставілі намёт, каб дзяжурыць на сьвежым лядзе днём і ўночы.

Будаўнічая праца перапынілася, але ніхто не ўспрымае гэтага як канчатковую перамогу. Колькасьць абаронцаў Курапатаў расьце. Шмат людзей, як ніколі, зьбіраецца тамака на традыцыйныя восеньскія талокі. Прыходзяць ня толькі тыя, чые родныя ляжаць невядома дзе, невядома кім забітыя. Устаюць новыя крыжы.

38 навукоўцаў, культурнікаў, палітыкаў, прафбосаў падпісалі заяву пра стварэньне грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты". Небясьпека зьяднала.

Фронт змаганьня пасьля прэзыдэнцкіх выбараў з палітычнага поля перамясьціўся ў гістарычнае і сьветапогляднае. У гэтай барацьбе незалежнае грамадзтва адчувае сябе ўпэўнена: тут ня трэба змагацца не за свайго кандыдата, шукаць угоды з тымі, з кім паразумецца цяжка, ня трэба чакаць падказак з захаду і ўсходу. Тут ня можа быць кампрамісу, бо Курапаты можна або захаваць, або згубіць. Як і беларускую мову, нацыянальную адукацыю, архітэктурныя помнікі, уменьне культурна жыць.

Працяг на старонцы 3.

### ТАЛОКІ Ў КУРАПАТАХ

**Догляд пахаваньняў і мэмарыяльных знакаў, добраўпарадкаваньне тэрыторыі штосуботу, пачынаючы з 29 верасьня, ад 10 да 17-й.**

**Не забудзьцеся браць з сабою неабходны для працы рыштунак (*сякеры, нажоўкі, граблі, рыдлёўкі, мяхі ці посьцілкі для сьмецьця ды інш.*).**




# Ці можа Домаш узначаліць БНФ?

**У сьнежні, на VII Зьезьдзе руху БНФ "Адраджэньне" (разам з VI Зьездам партыі), адбудуцца выбары новага кіраўніцтва. В.Вячорка пакуль разглядаецца як безальтэрнатыўны кандыдат на пасаду кіраўніка арганізацыі, хоць ягоны агульнанацыянальны рэйтынг так і ня вырас за два гады лідэрства. Калі ўлічыць паўсюль чутныя размовы пра абнаўленьне кадраў, дык што гэта: непахісны аўтарытэт унутры партыі, боязь новага расколу ці няздольнасьць Фронту на перамены?**

**Домаш мог бы стацца неблагім лідэрам любое партыі як чалавек, які ў чэрвені-ліпені набраў вялізную колькасьць подпісаў, як кандыдат у прэзыдэнты, чыя адсутнасьць у выбарчым сьпісе выклікала шкадобу ў многіх беларусаў. Наколькі гэта рэальна, ці думаюць пра гэта ў апазыцыі і, урэшце, ці прагне супрацоўніцтва з БНФ сам Сямён Домаш?**

### СЯРГЕЙ ДУБАВЕЦ

**галоўны рэдактар Радыё Балтыйскія Хвалі:**

Сувязь паміж БНФ і Домашам відавочная. Хто найбольш актыўна падтрымліваў Домаша ў часе перадвыбарчай кампаніі? БНФ. Хто тады ж фактычна зросься з "Рэгіянальнай Беларусяй"? БНФ. Хто не хацеў, каб Домаш аддаваў свае галасы на карысьць Ганчарыка? БНФ. Такія лідэры, як Вячорка, могуць быць мазгамі партыі, але ня ейным тварам. Можа з часам Вячорка і прыдбае харызмы, але пакуль ён малады. БНФ згубіў свой твар, калі зьехаў Пазьняк. А каб зараз Домаш стаў на чале Фронту, дык той пазбыўся б рэшткаў экстрэмісцкай спадчыны і стаўся б саліднай парлямэнцкай партыяй. Домаш навёў бы ў БНФ парадак, бо зараз у фронтаўскіх структурах пануе разгільдзяйства. Каб пазьбегнуць палітычнага "закату", БНФ мусіць паказаць людзям новы шлях, даць новыя твары. Калі ў Фронце дагэтуль ня думалі пра шчыльнае супрацоўніцтва з Домашам, дык пра што яны ўвогуле думаюць?

### ЛЕАНІД ЗАІКА

**палітоляг:**

Домаш мог бы ўзначаліць памяркоўную частку БНФ, здольную да працяглае працы, дыялёгу, палітычнай актыўнасьці, але тады ён страціць шанец стацца агульнанацыянальным лідэрам. Выбар для палітыка дастаткова адназначны.

Працяг на старонцы 4.

## Навіны за тыдзень

### Прайшлі 140 км лясамі

**Злодзеі з Івацэвіччыны тояцца ад міліцыі ў лесе. Так, два жыхары вёскі Няхачава абрабавалі тутэйшы магазын, выцягнулі тавараў на 521 тыс. рублёў і амаль тыдзень балявалі ў лесе. Схапілі іх, калі яны выйшлі ў вёску.**

А мужчына і жанчына зь вёскі Квасевічы абакралі крамы ў вёсках Бронная Гара і Лазаўцы і, "запакаваўшыся", амаль тыдзень бадзяліся па лесе. Выйшлі аж у Столінскім раёне — за 140 км ад Броннай Гары. Яны пасьпелі нават уладкавацца пастухамі ў тамтэйшым калгасе, але праз некалькі тыдняў міліцыя іх арыштавала.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

### РАНА беларусізуе садок

**У Менску зьявіўся яшчэ адзін беларускі садок — №60, на вуліцы Волаха. Ініцыятыва ператварэньня належыць уладам. Маскоўскі РАНА пайшоў на гэта дзеля дасягненьня бесьперапыннасьці навучаньня: школа, што суседзіць з садком, беларускамоўная. Старэйшую групу, праўда, зрабілі пераходнай — дзьвюхмоўнай. Вельмі спрыяльна паставілася да беларусізацыі садка загадчыца, паступова пераходзяць на беларускую мову і выхавацелькі, для якіх зьбіраюцца зладзіць адмысловыя курсы пры аддзеле адукацыі. Пакуль што бракуе адпаведных мэтадычных матэрыялаў і іншай літаратуры па-беларуску.**

Шкада, што стварэньне ўнівэрсытэтаў не ўваходзіць у кампэтэнцыю Маскоўскага РАНА.

**Прас.**

## ГАЗЭТА ТВАЁЙ ДУШЫ




Падпіска на месяц каштуе 929 рублёў

Для менчукоў падпіска на шапік "Белсаюздруку" – 760 рублёў

Падпісны індэкс 63125

## ДЫК ПАДПІСВАЙСЯ!

## "Наша Ніва" і "Arche" ў Магілёве

9 кастрычніка, у аўторак, а 18-й у Магілёве адбудзецца сустрэча рэдактараў "НН" і "Arche" з чытачамі. Прыедуць Валерка Булгакаў і Андрэй Дынько. Пра месца сустрэчы паінфармуем у наступным нумары.

Даведкі праз тэл. у Магілёве 25-57-85 або (0296) 25-57-85.

## Ня варта паэту перакладаць прозу



Гутарка пра жыцьцё з народным паэтам Нілам Гілевічам.

Старонка 10.

Навіны гаспадарскія

# Прыватызацыя магчымая

**На мінулым тыдні Лукашэнка ўпершыню дапусьціў, што можа пагадзіцца на прыватызацыю шэрагу прадпрыемстваў краіны.** Буйны расейскі капітал ужо даўно паглядае на наваполацкія "Нафтан" і "Палімір", Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, "Беларуськалій", гарадзенскі "Азот" і магілёўскае "Хімвалакно".

**Паводле статыстыкі, у жніўні сярэдні па Беларусі заробак склаў 145.852 рублі ці 99,3 даляры.** Аднак надалей ён будзе меншаць. Міністэрства эканомікі плянуе, што пры канцы 2002 г. сярэдні заробак дасягне 178000 рублёў, або 93,7 даляра, кошт якога ўздымецца да 1900 рублёў. (А ў Расеі мяркуюць, што ў наступным годзе сярэдні заробак спыніцца на 123 далярах.)

**Берасьцейскі аблвыканкам абвясціў, што мясцовыя банкі знаходзяцца ў цяжкім стане**, таму крэдыты на заробкі атрымаюць толькі тыя прадпрыемствы, якія ў стане вярнуць пазыкі. А на Менскім трактарным заводзе, дзе зарплату затрымалі на два тыдні, адбыўся першы пасля выбараў страйк — людзі спынілі рух на вуліцы Даўгабродзкай.

**Хутка зьнікнуць дробныя купюры ў 1 і 5 беларускіх рублёў** — выдаткі на друк перавышаюць іхную намінальную вартасьць. Адпаведна, "пакруглеюць" і цэтлікі ў крамах.

**Дзяржава можа абвясціць манаполію на зборку й продаж кампутараў.** Калі гэта здарыцца, застануцца бяз працы з паўсотні фірмаў, а кошты на кампутары ўздымуцца.

**Новае мыта, згодна зь якім танныя імпартовыя цыгарэты падаражэюць на 12%, не датычыць расейскае прадукцыі.** Навязаны Масквой вынятак з агульнага правіла можа перакрэсьліць усе намеры ўраду па падтрымцы беларускіх тытунёвых вытворцаў.

**Рэканструкцыя Прывакзальнай плошчы ў Менску скончыцца ў лістападзе.** Да гэтага часу тут зладзяць новы пераход да вуліцы Кірава. На чарзе — плошча Незалежнасьці. Над гарвыканкамам і ўправай мэтрапалітэну зьбіраюцца дабудаваць па некалькі паверхаў, а пад зямлёй у цэнтры плошчы зрабіць вялікі гандлёвы цэнтар. Праект будзе каштаваць недзе 150—200 тысяч даляраў.

**Сяржук Іваноўскі**

## Рэстаўрацыя "Менску"

**Сёлета закрыўся на капітальны рамонт гатэль "Менск". Рамантуюць яго турэцкая фірма "Інсаж" і інстытут "Менскпраект".** Дырэктар "Менску" Мікалай Жураўскі кажа, што пасьля аднаўленьня гасьцініца будзе адпавядаць чатырохзоркаваму эўрапейскаму ўзроўню. У гатэлі будзе спартова-аздараўленчы цэнтар, бізнэс-цэнтры, рэстарацыі, кавярні, бары, начны клюб, дыскатэка, салёны прыгожосьці, цырульня, мэдкабінэт, масажныя, трэнажорныя залі. У кожным нумары ўсталююць сыстэму кандыцыянаваньня, як у эўрапейскіх гатэлях. У лазенках будзе набор усіх неабходных прыналежнасьцяў. Самі нумары збольшага будуць аднамесныя і двухмесныя. Таксама — трыццаць восем люксаў, адзін V.I.P.-нумар і тры нумары для інвалідаў з спэцыялізаванымі лазенкамі й прыбіральнямі. Плянуецца пабудаваць таксама адмысловы ліфт для інвалідаў і ліфт, на якім будуць на замову вазіць ежу жыхарам. У гатэлі зьявіцца сыстэма выкліку пакаёўкі, а таксама "сыстэма відэаназіраньня" за супрацоўнікамі і наведнікамі.

У гатэлі будзе цэлая сыстэма скідак на паслугі: будзе ўлічвацца цана начнога госьця, дзённага госьця, сьвяточнага і г.д. Кошты ў "Менску" будуць такія самыя, як у якой "Беларусі" ці "Юбілейнай".

**Дзьмітры Гарэлікаў**

## Міква на Камуністычнай

У кватэры на другім паверсе аднаго з двухпавярховых дамкоў "генэральскага" кварталу па вул.Камуністычнай (за Опэрным тэатрам) адна зь юдзейскіх грамадаў Менску зладзіла сабе басэйн для рытуальных абмываньняў глыбінёй 2 м, аб'ёмам 9 м³. Была там сыстэма ачышчэньня вады ды душавыя кабіны. Шум вады, гамарня, аблупленыя ад вільгаці столі ды гнілая мэбля - вось ад чаго пакутавалі суседзі, ад імя якіх падаў у суд на габрэяў тамтэйшы ЖЭС. Ваду і газ у кватэры перакрылі.

**Паводле *Белорусской газеты***

ХУТКА ДЗЯДЫ

НЕ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ

прыбраць магілы сваіх,

а таксама тых, да каго няма каму прыйсьці

МІХАСЬ РАМАНЮК

Навіны за тыдзень

## Канадцы сыходзяць з гуты

**Канадзкая фірма "Кансьюмэрз" выйшла зь ліку заснавальнікаў сумеснае беларуска-канадзкага шклозаводу "Ялізава" і хоча спрадаць свае акцыі за 7,5 млн. даляраў.** Ужо сёлета шклозавод меўся распачаць выпуск прадукцыі на новай лініі. Справа ў малым — прывезьці з замежжа новае абсталяваньне коштам 10 млн. даляраў. Але на мяжы запатрабавалі мыты на 6 млн. даляраў, і канадцы адракліся супрацоўніцтва. Кажуць, іхныя акцыі зьбіралася купіць фірма "Лада-ОМС", што таксама ўваходзіць у склад заснавальнікаў "Ялізава". Належыць яна дэпутату палаты прадстаўнікоў Аляксею Ваганаву. Калі ў Ваганава альбо ў каго іншага ня знойдзецца неабходных грошай, гуту чакае банкруцтва.

## "Азот" прадаецца

**Аб'яднаньне "Азот", на якім працуе 7 тыс. чалавек, можа перайсьці ў рукі** расейскай кампаніі "Лукойл", якая мае актываў на 38 млрд. даляраў і нібыта займае па прыбытках 60-е месца ў сьвеце. А страты гарадзенскага аб'яднаньня складаюць "усяго" 10 млн. даляраў у год. На самім «Азоце» хацелі б зладзіць адкрыты тэндэр і выбраць інвэстара, які прапануе найлепшыя ўмовы. Ня выключана, што ў такім узялі б удзел заходнія кампаніі, зь якімі супрацоўнічае "Азот".

**Паводле Радыё Свабода**

## Зачынілі беларускую клясу

**У Горках зачынілі беларускамоўную клясу горацкай СШ №2, у якой была адзіная вучаніца — Марылька Каралькова.** Бацькам прапанавалі вучыць дачку ў вясковай школе або перавесьці яе ў расейскамоўную клясу. Цяпер Марылька навучаецца дома сама.

**Віталь Дранік, Горкі**

## *Дзень сэрца*

**30 верасьня абвешчаны Сусьветным днём сэрца, ён прысьвечаны папярэджаньню сардэчных захворваньняў ды інфарктаў:** кожны трэці ў сьвеце памірае менавіта ад іх. Віною тут — стрэсы, пасыўны лад жыцьця. Беражыце свае сэрцы!

### Пацярпелыя за Беларусь

У Берасьці 19 жніўня была затрыманая Паліна Панасюк, якая раздавала газэту "Наша Свабода" і "выражала свае адмоўныя адносіны да абраньня прэзыдэнтам А.Лукашэнкі". Цяпер суд Берасьця даў ёй 5 ночаў арышту. Супраць Паліны ўзбуджаная шчэ адна адміністрацыйная справа — за непавагу да суду: яна не атрымала позвы й не зьявілася на паседжаньне 7 верасьня. За гэта надбужанскай Жаньне д'Арк пагражае яшчэ да 15 ночаў арышту.

Спорт

## Барацьба газэт

**Стала вядома, што Бялькевіч з Хацкевічам у Валію ня едуць.** Можа, гэта і лепш. Каманда, якая мерыцца трапіць на чэмпіянат сьвету, павінна перамагаць валійцаў (больш чым соты нумар сусьветнага рэйтынгу) у любым складзе.

Не хацелася б камэнтаваць канфлікт Малафеева з Валікам і Сашам, які ў хуткім часе будзе спакойна вырашаны на карысьць Беларусі — вернуцца нашыя лепшыя футбалісты ў зборную, а мо нават і ў менскае "Дынама". Але дазвольце даць камэнтар да камэнтару.

18 верасьня я набыў *Спортивную панораму* (былы *Физкультурник Белоруссии*) з артыкулам "Давайце пакінем у спакоі Малафеева". Пра Малафеева — толькі ў другой палове тэксту. Маўляў, толькі ён "адкажа", дык ніхто больш ня суньcя. Але Малафееў таму і ёсьць вялікім трэнэрам, што не адгароджвае сябе ад крытыкі — хай часам і несправядлівай.

Галоўная ж задача названага тэксту — абліць гразёй канкурэнта, незалежную газэту *Прессбол*, які, на думку рэдактара *СП*, "аганізуе". Яшчэ там ёсьць і такі во пэрл: "Дасюль, як пападзе ў рукі якое-небудзь з так званых апазыцыйных выданьняў, рукі потым даводзіцца вельмі доўга адмываць".

Камэнтары, відаць, не патрэбныя. А *СП* я, дарэчы, купіў, бо *Прессбол* расхапалі, ледзьве ён трапіў у шапік.

**A.U., Гомель**

Анэкдот

## Забівайце, забівайце!

А.Лукашэнка наведаў футбольную школу ў Менску. Навучэнцы падарылі яму футболку з нумарам 9.

— А чаму ж "дзевяць"? — зьдзівіўся А.Лукашэнка.

— Гэта, Аляксандар Рыгоравіч, каб вы болей забівалі.

**Паводле БТ, у перакладзе з расейскай**

Дакумэнт

# Заява грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты"

Пры канцы 80-х народу Беларусі адкрылася жудасная праўда аб масавых рэпрэсіях сталінскага рэжыму. Стала вядомым і адно зь месцаў масавых расстрэлаў і пахаваньняў ахвяраў — урочышча Курапаты. Назва як сымбаль памяці й болю аб бязьвінна забітых, бясьследна зьніклых.

Дзякуючы намаганьням грамадзкасьці, дасьледаваньням і публікацыі Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, раскопкам археолягаў стала вядома, што ў 30—40-х гадах мінулага стагодзьдзя тут былі расстраляныя дзясяткі, а магчыма, сотні тысяч чалавек. Іх парэшткі ляжаць у сотнях курапацкіх магілаў. У 1988—89 г. дзяржаўная камісія на чале з генэральным пракурорам Тарнаўскім пацьвердзіла, што ў Курапатах бязьвінныя людзі былі зьнішчаныя НКВД. Таму ў 1993 г. урочышча было занесенае ў дзяржаўны рэестар гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Беларусі як "Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій у 30—40 гады XX ст." Курапатам быў нададзены статус першай катэгорыі гістарычна-культурных каштоўнасьцяў. Так, дзякуючы народнай волі, Курапаты сталіся Нацыянальным нэкропалем — адной з галоўных памятных мясьцінаў нашага народу.

На жаль, былі і ёсьць у Беларусі сілы, якія хацелі б абвергнуць гэтую праўду, абяліць сталінскі рэжым і яго злачынствы. Яны спрабавалі даказаць, што ў Курапатах знаходзяцца рэшткі ахвяраў фашыстоўскага рэжыму. Створаная іх намаганьнямі чарговая камісія правяла ў 1998—99 г. новае сьледзтва. Аднак вынікі яго засакрэчаныя дагэтуль. Ці не таму, што яны не адпавядаюць заказной вэрсіі?

Сёньня зноў узьнікла небясьпека страціць наш Нацыянальны нэкрополь — Курапаты. Распачатае пашырэньне менскай кальцавой дарогі, якая можа зьнішчыць магілы бязьвінна забітых. Будаўніцтва ў раёне Курапатаў пачалося раней заплянаванага тэрміну (работы плянаваліся на 2003—2005 г.), без усялякага грамадзкага абмеркаваньня прапанаванага варыянту рэканструкцыі. Будаўнікі ігнаруюць неабходны ў такім выпадку нагляд з боку спэцыялістаў і археолягаў Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і нават элемэнтарную тэхніку бясьпекі. Земляныя работы вядуцца вельмі пасьпешліва, практычна без чарцяжоў на рабочай стадыі і без праекту арганізацыі будаўнічых работ. У выніку пачатай будоўлі была закранутая паляна перад Крыжом Пакуты, якая не павінна, паводле папярэдняга праекту, быць уключаная ў зону будаўніцтва дарогі.

Каб не дапусьціць руйнаваньня могілак, на шляху бульдозэраў сталі хлопцы і дзяўчаты з "Маладога фронту", "Эўрапейскага шляху" і іншых моладзевых арганізацыяў.

Дзеля вырашэньня гэтага канфлікту, дзеля абуджэньня народнай маральнай энэргіі ў абароне Нацыянальнага нэкропалю мы, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў, прафсаюзаў, навукоўцаў, інтэлігенцыі, аб'ядналіся ў грамадзкую ініцыятыву "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты".

Мы патрабуем:

Тэрмінова спыніць будаўніцтва дарогі ў раёне Курапатаў.

Правесьці дадатковыя археалягічныя дасьледаваньні ў прыдарожнай зоне.

Пачаць неадкладны публічны дыялёг адказных дзяржаўных структураў з прадстаўнікамі грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты".

Рассакрэціць і абнародаваць вынікі сьледзтва ў Курапатах, праведзенага вайсковай пракуратурай у 1998—99 г.

У адпаведнасьці са статусам помніка, неабходна ўключыць у праект агароджу ўсяго ўрочышча Курапаты, добраўпарадкаваньне яго тэрыторыі і стварыць належную ахову.

Пасьля высьвятленьня сытуацыі мы складзем плян доўгатэрміновай працы дзеля ўратаваньня Курапатаў, дзеля прыцягненьня ўвагі ўсіх жыхароў Беларусі да асэнсаваньня таго, што адбылося з нашым народам у XX ст., каб такое больш ніколі не паўтарылася. Будзем памятаць — значыць, не паўторым.

Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" лічыць сваім сьвятым абавязкам абарону ад пагрозы зьнішчэньня і руйнаваньня ня толькі курапацкага Нацыянальнага нэкропалю, але і ўсіх помнікаў і мэмарыялаў нашай краіны.

**Тацяна Алесіна, Ларыса Андросік, Уладзімер Арлоў, Вацлаў Арэшка, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Генадзь Быкаў, Леанід Ваўчок, Алесь Бяляцкі, Артур Вольскі, Вінцук Вячорка, Уладзімер Ганчарык, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Якаў Гутман, Ірына Жыхар, Аляксей Кароль, Мая Кляшторная, Валеры Крыленка, Жанна Літвіна, Аляксей Літвін, Леанід Лыч, Уладзімер Мамонька, Аляксей Марачкін, Сяргей Мацкевіч, Анатоль Паўлаў, Павел Севярынец, Віталь Супрановіч, Алег Трусаў, Валянціна Трыгубовіч, Аляксей Фралоў, Яўген Церахаў, Аляксандар Шалайка, Карлас Шэрман, Станіслаў Шушкевіч**

**3 кастрычніка, у сераду, адбудзецца круглы стол "Лёс Курапатаў". У паседжаньні возьмуць удзел прадстаўнікі грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" і дзяржаўныя чыноўнікі. Пра час і месца можна даведацца праз тэл.: (017) 206-59-09.**

# Андрэй Саньнікаў: "Дзяржаўнасьць Беларусі замацавалася"

**"Хартыя'97" была мазгавым цэнтрам беларускае апазыцыі перад выбарамі. Ці адчувае яна адказнасьць за тое, што адбылося? Гутарка зь міжнародным каардынатарам "Хартыі" Андрэем Саньнікавым.**

**"НН": Якія памылкі зрабіла апазыцыя падчас выбарчае кампаніі?**

**Андрэй Саньнікаў:** Першая — не адбылося рэальнага аб'яднаньня. Мы шмат гаварылі пра яго, шмат зрабілі, каб усе сілы, якія супрацьстаяць Лукашэнку, былі на адным баку. Цяпер відавочна, што гэта была штучная спроба аб'яднаць і тых, хто мог нешта рабіць, і тых, хто ня мог. Ня здолелі мы знайсьці лёгіку гэтага аб'яднаньня, ня здолелі стварыць рэальны адзіны цэнтар. Бо для такой сур'ёзнай мэты нельга аб'ядноўваць людзей, здольных працаваць, і тых, якія ня ведаюць, што рабіць. Нельга пасьля складанага пэрыяду памылак і посьпехаў аддаваць ініцыятыву групоўкам, якія ня маюць досьведу палітычнай барацьбы. Мы ведалі, хто на што здатны, аднак спадзяваліся, што ўсё неяк спрацуе.

**"НН": Каго вы маеце на ўвазе?**

**А.С.:** Ня толькі й ня столькі Ганчарыка.

Другая памылка — мы задоўга вырашалі, хто будзе адзіным кандыдатам. Пры канцы мінулага году мы ведалі два прозьвішчы — Ганчарык і Домаш. І трэ было сёлета на пачатку году прыняць рашэньне. Яно магло б быць такім самым, як тое, што зьявілася ў жніўні. Мы ж задоўга яго абмяркоўвалі, хацелі ўлічыць усе фактары, інтарэсы ўсіх, у тым ліку арганізацыяў-фантомаў, якія ўзьнікалі летась пад зіму і сёлета. І ў выніку страцілі шмат часу. А час быў вельмі важны чыньнік, бо мы маем тую сытуацыю са сродкамі масавай інфармацыі, якую маем. Каб людзі даведаліся, што ёсьць ня толькі асоба, але й згуртаваная сіла за ёй, патрэбны час. І калі б альтэрнатыўны кандыдат перамог, шырокая грамадзкая кааліцыя, якая стаяла за ягонымі плячыма, пераадолела б раскол у грамадзтве. А цяпер гэты раскол яшчэ павялічыўся. Мы павінны былі растлумачыць, што ёсьць магчымасьць аб'яднаньня грамадзтва, руху наперад. Ня маючы электронных СМІ, гэта нельга было зрабіць хутчэй, чым за паўгоду.

Было шмат такіх момантаў, якія мы маглі пралічыць, але не пралічылі.

Асноўны вынік — Лукашэнка захаваў уладу, а мы, апазыцыя, пакуль што не змаглі яго гэтай улады пазбавіць. І ўсё. Зараз трэба прааналізаваць, чаму гэта здарылася, пераасэнсаваць ролі асноўных актораў, а потым вырашыць, што і як зрабіць, каб Беларусь вярнулася на шлях дэмакратыі.

**"НН": Вы кажаце толькі пра Домаша й Ганчарыка. А што, хіба Чыгір і Казлоўскі ад пачатку не разглядаліся "Хартыяй" як сур'ёзныя кандыдаты?**

**А.С.:** Як рэальныя супернікі Лукашэнку — не. Толькі як асобы, што дапамаглі б адзінаму кандыдату.

**"НН": Як вы ацэньваеце дзейнасьць руху "Зубр"?**

**А.С.:** Станоўча. Ці не ўпершыню зьявіўся рух, здольны аб'яднаць моладзь і паўплываць на яе паводзіны й пазыцыю. Бо раней усе моладзевыя ініцыятывы былі скіраваныя або на невялікія групы моладзі, або не на моладзь. Формы працы былі неэфэктыўныя — сэмінары, канфэрэнцыі... А "Зубр" адразу зьвярнуў на сябе ўвагу грамадзтва, дэкляраваў прынцыпы актыўных дзеяньняў і абароны асноваў дэмакратыі і правоў чалавека негвалтоўнымі мэтадамі. Мэтай "Зубра" абвяшчалася адстойваньне нашых нацыянальных інтарэсаў і каштоўнасьцяў.

**"НН": Чаму апазыцыя на гэтых выбарах абыходзіла нацыянальнае пытаньне?**

**А.С.:** Зусім не абыходзіла. Нацыянальнае пытаньне пастаянна гучала, было замацаванае ў праграмах Домаша й Ганчарыка. Іншая справа, што зашмат намаганьняў прыкладалася, каб спадабацца Расеі. Адзіны кандыдат быў абраны з улікам гэтага чыньніка. І гэта дадало праблемаў.

**"НН": На чым грунтавалася "Хартыя", калі абвінаваціла лідэра руху геяў Эдварда Тарлецкага ў супрацоўніцтве з КДБ?**

**А.С.:** Інфармацыя пра Тарлецкага — гэта інфармацыя прэсавага цэнтру "Хартыі", які даведаўся, што рыхтуецца такая правакацыя: лідэраў апазыцыі імкнуліся выставіць як людзей зь нетрадыцыйнай арыентацыяй. Прычым так брудна, як гэта ўмее рабіць БТ. Яны спрабавалі скарыстаць нэгатыўнае стаўленьне грамадзтва да гэтых групаў і зьвязаць зь імі апазыцыю. Аналягічны выпадак адбыўся ў Расеі. Там падчас выбараў група прадстаўнікоў сэкс-меншыняў дэкляравала падтрымку Яўлінскаму, а расейскае тэлебачаньне гэта падхапіла. Почырк аднолькавы.

**АНДРЭЙ САНЬНІКАЎ нарадзіўся ў Менску ў 1954 г. Скончыў Менскі лінгвістычны ўнівэрсытэт. У 1982—1985 г. працаваў у Сакратарыяце ААН у Нью-Ёрку. Пасьля сканчэньня Маскоўскай дыпляматычнай акадэміі ў 1989 г. — у Міністэрстве замежных справаў Беларусі. З 1993 па 1995 г. працаваў дарадцам місіі Беларусі ў Жэнэве. У 1995 г. прызначаны намесьнікам міністра замежных справаў Беларусі. Зь лістапада 1996 г. стаўся міжнародным каардынатарам грамадзкай ініцыятывы "Хартыя'97". Мае дыпляматычны ранг пасла. Рэктар "Народнага Ўнівэрсытэту". Жанаты, мае сына.**



## *Скраўшы выбары, рэжым не зьмяніўся*

**"НН": Ці верыце вы ў магчымасьць маральнай палітыкі?**

**А.С.:** Веру. Лічыцца, што палітыка — брудная справа. Менавіта таму палітыкі павінны адстойваць маральныя прынцыпы. У беларускай сытуацыі мы можам казаць пра маральнасьць і немаральнасьць палітыкі даволі акрэсьлена. Улада, якая будуе таталітарнае грамадзтва, адстойвае прынцып амаральнасьці, а апазыцыя, прыхільніца дэмакратыі, намагаецца трымацца маральнасьці.

Менавіта дзякуючы апазыцыі ў грамадзтве захоўваецца магчымасьць маральнага выбару.

**"НН": А ці маральна было з боку прэс-цэнтру "Хартыі" вінаваціць Тарлецкага ў правакатарстве?**

**А.С.:** Не, не маральна, гэтаксама, як і яму не маральна было ўдзельнічаць у правакацыі.

**Фядута вінаваціць апазыцыю ў прысвойваньні грантаў...**

**А.С.:** Тое самае робяць Зімоўскі, Новікаў, Казіятка... Узровень даверу аднолькавы.

**"НН": Хто для Вас узор маральнага палітыка ў беларускай гісторыі?**

**А.С.:** Прадслава, якая адмовілася ад камфортнай "кар'еры" князёўны й стала Эўфрасіньняй Полацкай. Алесь Адамовіч, які не дазволіў яшчэ аднаму "чарнобылю" зьявіцца на нашай зямлі. Васіль Быкаў. Я ведаю, што ён ня лічыць сябе палітыкам, але менавіта ён усталёўвае плянкі маральнасьці для палітыкаў.

**"НН": Якой Вы бачыце будучыню "Хартыі"?**

**А.С.:** Нашы стратэгія і тактыка хутка зьявяцца. Магу гарантаваць, што гэта ня будзе тактыка супрацоўніцтва з рэжымам. Ад таго, што Лукашэнка скраў выбары, ён сам не зьмяніўся, і рэжым не зьмяніўся.

**"НН": Паводле Вашай інфармацыі, ці адбудуцца выбары ў г.зв. саюзны парлямэнт і ці нясуць яны пагрозу сувэрэнітэту краіны?**

**А.С.:** Яшчэ ёсьць пагроза страты сувэрэнітэту. Але дзяржаўнасьць Беларусі замацавалася, і апазыцыя тут адыграла вельмі важную ролю. Цяпер Беларусь ведаюць як незалежную дзяржаву, дэмакратычная грамадзкасьць якой сур'ёзна пярэчыцьператварэньню ў расейскую правінцыю. Легальна Пуцін зрабіць гэтага ня зможа. Гэта значыць, будуць спробы калянізацыі Беларусі праз эканоміку. А гэта ў сваю чаргу пазначае, што Лукашэнка пазбавіцца важных рычагоў кіраваньня краінай, чаго яму таксама ня хочацца. Палітычным шляхам, нават праз гэтыя выбары ў саюзны парлямэнт, які ніхто не прызнае, прыўлашчыць Беларусь ня ўдасца. Але ёсьць тут небясьпечныя зьявы. Я быў, напрыклад, вельмі зьдзіўлены, пачуўшы, як сп.Вік гаворыць пра выбары ў гэты парлямэнт, ускосна прызнаючы ягоную законнасьць. Я лічу, што службовая асоба такога рангу ня мае права рабіць такія заявы, бо проста няма такой саюзнай дзяржавы. АБСЭ яе не прызнае.

## *Дзіўна, што Вік гаворыць пра выбары ў "саюзны парлямэнт", ускосна прызнаючы ягоную законнасьць*

**"НН": І яшчэ адно пытаньне на тую ж тэму. Ці маральна, па-Вашаму, ігнараваць беларускую мову ў палітыцы? Я маю на ўвазе, напрыклад, татальна расейскамоўных "зуброў" і перадвыбарную агітацыю "адзінага кандыдата".**

**А.С.:** Наконт "зуброў" — гэта ня так. Паразмаўляйце з "зубрамі" самі й паспрабуйце знайсьці сярод іх "татальных расейцаў", калі вас не палохае парлямэнцкая лексыка. А што да палітыкі й мовы, дык я лічу памылковым падзяляць людзей на сапраўдных патрыётаў і несапраўдных па моўным прынцыпе. Гэта ня той прынцып. Калі мову зрабілі палітычным пытаньнем, пацярпела мова. Іншая справа, што беларускія дэмакратычныя палітыкі абавязаныя замацоўваць мову ў якасьці носьбіта гісторыі, культуры й палітыкі.

**"НН": Тады яшчэ ў працяг.**

Мы павінны быць вельмі пільнымі, каб адсочваць усё, што нас датычыць. Ня толькі тое, што робіцца ў Беларусі, ня толькі спробы Крамля забраць Беларусь, але й тое, як на гэта рэагуе міжнародная супольнасьць, асобныя дзяржавы, тыя ці іншыя структуры. Гэтага за нас ніхто ня зробіць.

**Запісала Сьвятлана Курс**



IREX-PROMEDIA

# Або захаваем, або згубім

Працяг са старонкі 1.

Бясспрэчна: дзе дзяржава не дае рады, там мусяць дбаць самі людзі.

Руйнаваньне "дому мастакоў" на Дзімітрава і бульдозэрная атака на Курапаты зноў выявілі слабасьць беларускае дзяржавы. Прыватныя інтарэсы магутных фірмаў — "Камкону" на Дзімітрава і "Белгіпрадору" ў Курапатах — увайшлі ў супярэчнасьць з грамадзкімі. І што ж дзяржава, якая мусіць у такіх сытуацыях адстойваць інтарэсы грамадзтва? Нічога ня хоча рабіць. Пара чыноўнікаў — абыякавых або проста падкупленых — падмахваюць паперы, і капіталісты, дзяржаўныя і прыватныя, зарабляюць грошы. Што ім людзкія косткі, што ім гісторыя...

Цяпер шмат гавораць пра прыход расейскага капіталу (за плячыма якога стаіць яшчэ мацнейшы заходні, як у выпадку тае ж "Балтыкі", што належыць швэдзкім броварам). Гэтая пэрспэктыва палохае не сама сабою. Дзяржава, якая мае кантраляваць новых уласьнікаў, у Беларусі пакуль слабая. Яе кволасьць праяўляецца ў вечнай глухаце да голасу грамадзкасьці.

**Андрэй Дынько**

## Ацэнкі

# Калектыўнае злачынства ад страху

**Паводле зьвестак Цэнтравыбаркаму, з кожных чатырох дарослых беларусаў трое — прыхільнікі цяперашняга рэжыму. Ня трэба рабіць паралельнага падліку галасоў на тое, каб сказаць, што гэта ня так. Словам, як казаў Сталін, ня важна, як прагаласавалі, важна, як падлічылі.**

Як такое стала магчыма?

Па-першае, за сем гадоў А.Лукашэнка цалкам сабраў усю ўладу ў сваіх руках. Фактычна пазбаўленыя паўнамоцтваў парлямэнт, суд і пракуратура, Савет Міністраў. Усё стаў вырашаць адзін чалавек. Органы мясцовага самакіраваньня былі замененыя на "вэртыкаль". Куды пры гэтым глядзелі людзі? Усе незадаволеныя былі выгнаныя з пасадаў: адныя эміґравалі, другія за кратамі, трэція прапалі. На іх месца Лукашэнка часьцяком садзіў людзей, запрошаных з Расеі, для якіх не існуе інтарэсаў Беларусі, а ёсьць толькі пасада. Як правіла, гэта людзі, якія ні ў якай іншай сытуацыі не зрабілі б такой кар'еры. Зь іхнай асабістай адданасьцю Лукашэнка мог разьлічваць на любыя адсоткі. І яны не падвялі.

Па-другое, былі створаныя абсалютна няроўныя ўмовы для кандыдатаў. У якім аб'ёме на слыху ў людзей быў Лукашэнка і ў якім аб'ёме — Ганчарык? За першым стаяла ўся дзяржаўная прапаганда, за другім - прыватная ініцыятыва асобных людзей. Першы арыштоўваў актывістаў другога, зачыняў ягоныя штабы на месцах, а ў дзень галасаваньня яшчэ й вылучыў яму ўсе тэлефоны. Што мог супрацьпаставіць яму другі?

Па-трэцяе, у выбарчыя камісіі не патрапіў ніхто "з гэтага боку". Гэтаксама, як на многія ўчасткі не дапускаліся незалежныя назіральнікі. Чаго ж баяліся, што нехта пастаіць ды пагглядзіць, як у вас усё чыста і законна?

У папярэднім галасаваньні ўзялі ўдзел да 20% выбарцаў. Ніхто не аб'явіў яго вынікаў. Бюлетэні папросту ўкінулі ў агульны кацёл. А што за бюлетэні? Паперкі, якіх на любым ксэраксе можна адштампаваць колькі заўгодна. І вось вам, Аляксандар Рыгоравіч, адсоткі. Усё самі зрабілі, ніхто чужы ня бачыў.

Уражвае маштаб афэры. Гэта ж цэлае мора народу па ўсёй краіне рабіла замоўленае ўладай ад страху перад той самай уладай. Ня дзеля лепшага свайго жыцьця, бо за сем гадоў добра ведаюць, з чым маюць справу, а менавіта дзеля боязі страціць працу, заробак, стабільнасьць.

Выбары засьведчылі замацаваньне ў Беларусі дыктатуры аднаго чалавека — на ўзор дыктатураў у Лацінскай Амэрыцы. Праблема не ў Лукашэнку асабіста, а ў тых дзясятках тысячаў паняволеных ім сябраў камісій на выбарчых участках па ўсіх гарадох і вёсках краіны. Згадаю тут словы Пазьняка пра тое, што яшчэ пяць гадоў Лукашэнкі ператвораць беларускі народ у калекаў. Згадаю таксама словы аднаго лацінаамэрыканскага пісьменьніка пра тое, што дыктатура не прамінае лёгка, бо ўядаецца ў народ да мозгу костак.

9 верасьня мы ўсе пераканаліся, што ў Беларусі выбары — гэта ня сродак ад дыктатуры.

**Алесь Кебік**

## Удакладненьне

У "НН" №36 ад 3 верасьня, у артыкуле "Сьмелыя паасобку, асьцярожныя разам", ёсьць недакладнасьць. Прэміі імя Алеся Адамовіча пачалі ўручаць не з 1996 г., а з 1995 г. Першымі ляўрэатамі былі Павал Шарамет (ТВ), Анатоль Казловіч, Віталь Цыганкоў, Валянцін Жданко (газэтная публіцыстыка), Самсон Палякоў і рэжысэр Алай (кіно).

# Ці можа Домаш узначаліць БНФ?

Працяг са старонкі 1.

**ЮРАСЬ КАРМАНАЎ**

**рэдактар Радыё Рацыя:**

У Домаша няма палітычнай будучыні. Гэта разьдзьмутая пад выбары фігура. Выскачыў як Піліп з канапель і гэтаксама прападзе. Домаш прыняў прапанаваную яму пад выбары сыстэму каштоўнасьцяў, але не засвоіў яе. Таму ён ня можа ачоліць БНФ.

**МІКОЛА СТАТКЕВІЧ**

**старшыня Народнай Грамады:**

Цяпер неабходныя перастаноўкі на правым флянгу, і Домаш можа стацца каталізатарам гэтых перастановак. БНФ ачольваць Домаш наўрад ці захоча, бо гэтай арганізацыі стварылі нэгатыўны імідж. Магчыма, Домаш аб'яднае АГП й БНФ, але ў выніку атрымаецца не адна арганізацыя, а тры.

**ВІКТАР КАРНІЕНКА**

**намесьнік старшыні "Рэгіянальнай Беларусі":**

У нас з БНФ розныя мэты. Калі "Рэгіянальная Беларусь" выступае за шырокую дэмакратызацыю жыцьця ў рэгіёнах, БНФ мае найперш палітычныя задачы. Домаш застанецца ў "Рэгіянальнай Беларусі".

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

**пісьменьнік:**

Я яшчэ год таму казаў Домашу, каб ён ня лез у гэтую касу, і цяпер відаць, што год выдаўся пусты і бяздарны. Домаш толькі здароўе сабе падарваў. А БНФ даўно трэ было разагнаць. Ён скампрамэтаваў сябе, як і БНР, і БЦР, і розныя краёвыя абароны. Калі Домаш захоча застацца ў палітыцы, яго трэба школіць і школіць, бо ён шмат чаго ня ведае. Паглядзіце ягоную праграму — гэта "справа аднае ночы", як у часы майго студэнцтва казалі. А арганізацыя, якую Сямён Мікалаевіч мог бы ўзначаліць, мусіла б быць цэнтрысцкай, не кульгаючы ані ўправа, ані ўлева.

**АЛЯКСАНДАР МІЛІНКЕВІЧ**

**кіраўнік передвыбарчага штабу С.Домаша:**

Домаш ня будзе ўзначальваць БНФ. Гэта нерэальна. Ён будзе ўзначальваць "Рэгіянальную Беларусь" — моцны грамадзка-палітычны рух, у які ўваходзяць больш за 600 палітычных, прафсаюзных, грамадзкіх арганізацыяў.



АЛЕНА АДАМЧЫК

**Апытвалі Сьвятлана Курс і Анатоль Прасаловіч**

**Вінцук Вячорка, старшыня БНФ "Адраджэньне", мяркуе, што "Домаш на чале БНФ – гэта нерэальна". Домаш, на ягоную думку, увесь час імкнуўся, каб яго не атаясамлівалі з БНФ, відаць, уважаючы, што супрацоўніцтва з БНФ пашкодзіць ягонаму палітычнаму іміджу. Дый увогуле, пасьля выбарчай кампаніі стала відавочна, што найбольшы ўплыў і пэрспэктывы ў Беларусі маюць палітычныя партыі і грамадзкія аб'яднаньні, а не асобы, кажа Вячорка.**

**Сам Сямён Домаш адмовіўся даваць камэнтары, спаслаўшыся на хваробу і выкліканы ёю інфармацыйны вакуум.**

**Большасьць апытаных зьвязваюць Домашаву палітычную будучыню не з БНФ, а зь іншай палітычнай структурай — рээрганізаванай "Рэгіянальнай Беларусяй". Аднак стварэньне такой сілы ці дапусьцяць яшчэ ўлады, ці зарэгіструюць. Прывабнай назвы сабе "рэгіяналы" пакуль не прыдумалі. А нэгатыўны імідж у вачах асобных слаёў насельніцтва ўлады могуць стварыць новай сіле за месяц.**

**Прыход у БНФ на гатовае гарантаваў бы Домашу пэўную палітычную будучыню на чале салiднай парлямэнцкай партыі. Хіба толькі пляны Домаша шырэйшыя?**

ТРЫБУНА ПАЛІТЫКА

# Партыя, што аб'яднае нацыю

Аляксей Янукевіч

Аналіз вынікаў прэзыдэнцкае кампаніі-2001 працягваецца як на партыйных сходах, так і на старонках незалежных выданьняў. Пры гэтым прычыны паразы называюць самыя розныя, а некаторыя наагул сьцьвярджаюць, што апазыцыя зусім не прайграла. Што ж датычыць меркаваньняў аб станоўчым выніку выбараў для апазыцыі, яны надзіва аднадушныя: "Апазыцыя здолела згуртавацца". Менавіта ўтварэньне Шырокай Грамадзкай Кааліцыі разглядаецца большасьцю палітычных лідэраў як асноўны й адзіны пазытыўны вынік іх працы ў 2001 г. Насамрэч, аб'яднаньне палітычных суб'ектаў з супрацьлеглымі інтарэсамі каштавала задорага, каб цяпер ім не ганарыцца. У ахвяру Кааліцыі былі пакладзеныя ня толькі партыйныя інтарэсы, эфэктыўнасьць дзеяньня апазыцыі, палітычная ініцыятыва і, у выніку, сама перамога на выбарах. У ахвяру кааліцыі была пакладзеная Нацыянальная Ідэя.

Натуральна, перамога адзінага кандыдата магла б адкрыць новыя магчымасьці для рэалізацыі інтарэсаў нацыянальных сілаў: парлямэнцкія выбары, разьняволеньне грамадзтва й г.д. Аднак кааліцыя пацярпела паразу. І – павінна была спыніць сваё існаваньне.

Відавочна, што апазыцыйнасьць да існуючага рэжыму была вельмі нетрывалым грунтам дзеля пабудовы рэальнай, эфэктыўнай кааліцыі. Сёньня ж, калі праблема атрыманьня дэмакратычнымі сіламі ўлады на нацыянальным узроўні адкладаецца на няпэўны час і перад апазыцыяй стаяць зусім іншыя задачы, суб'ектаў Кааліцыі-2001 аб'ядноўваюць хутчэй не супольныя інтарэсы ці пляны на будучыню, але супольнае мінулае й адмоўны палітычны досьвед.

Разам з тым, дзейнічаць паасобку таксама не выпадае. Прынамсі тым палітычным сілам, якія маюць падобныя інтарэсы й каштоўнасьці. Менавіта цяпер надыходзіць час дзеля стварэньня новай кааліцыі, што мае аб'яднаць усе нацыянальныя, незалежніцкія сілы на грунце нацыянальнай ідэі. Тым больш, што кампанія-2001 засьведчыла: няма іншых сілаў у Беларусі, здольных рэальна ўплываць на грамадзка-палітычную сытуацыю ў краіне, апроч сілаў нацыянальных.

Новая кааліцыя павінна ўтварыцца як мага хутчэй, да пачатку палітычнага сэзону 2002 г., каб не паўтарыць лёсу сваёй папярэдніцы. У адрозьненьне ад Шырокай Грамадзкай, Нацыянальная Кааліцыя здолее рэальна змабілізаваць наяўныя рэсурсы сваіх суб'ектаў, перадусім самыя каштоўныя – людзкія, дзеля вырашэньня супольных задачаў. **У бліжэйшыя два гады Нацыянальныя Сілы ў складзе сваёй кааліцыі павінны пераняць і ўтрымліваць палітычную ініцыятыву, усталяваць**



**кантакт з грамадзтвам і вярнуць ягоны давер да сябе, забясьпечыць сабе падтрымку з боку нацыянальных элітаў і, нарэшце, падрыхтавацца й пасьпяхова правесьці сваіх кандыдатаў у мясцовыя Саветы на выбарах 2003 г.**

Натуральна, што існуючую ўладу ў рэжыме рэагаваньня перамагчы немагчыма ў прынцыпе. Мы павінны навучыцца ня толькі думаць і дзейнічаць хутчэй, чым нашыя апанэнты, але й прадбачаць наперад магчымыя наступствы тых ці іншых палітычных падзеяў. Кааліцыя нацыянальных сілаў павінна мець свой інфармацыйна-аналітычны цэнтар, інакш нашыя стратэгічныя пляны й надалей будуць разьбівацца аб рэчаіснасьць палітычнага жыцьця яшчэ да пачатку іх ажыцьцяўленьня. Перайманьне палітычнай ініцыятывы патрабуе дзеяньняў, скіраваных на дасягненьне канкрэтных мэтаў. Практыка глябальных сымбалічных кампаніяў павінна быць спыненая. Мы ня мусім разьлічваць на тое, што за 3-4-6 месяцаў сытуацыя можа істотна зьмяніцца, але павінны дзейнічаць малымі крокамі, ставячы рэальныя мэты й абавязкова іх дасягаючы. Агульнанацыянальны посьпех будзе складацца з тысячаў невялікіх мясцовых перамогаў. Каб зьмяніць сытуацыю на сваю карысьць, нам патрэбная пэўная крытычная маса станоўчых вынікаў. І, вядома, трыманьне палітычнай ініцыятывы вымагае адпаведнай палітычнай волі. Трэба быць моцнымі й ісьці да канца, калі мы нешта пачынаем.

Сіла кожнай палітычнай партыі вымяраецца ейнай рэальнай падтрымкай у грамадзтве. Менавіта грамадзтва вырашае, хто будзе кіраваць краінай, нават пры аўтарытарным рэжыме, які мы маем у Беларусі.

Вялікай памылкай нацыянальных сілаў было супрацьпастаўленьне сябе грамадзтву. Натуральна, для ўсіх добры ня будзеш. Але мы, ня здолеўшы знайсьці ў нашым грамадзтве падтрымкі некаторых нашых ідэяў, падзялілі грамадзтва ў сваім уяўленьні на "сьвядомых" і "манкуртаў" ("люмпэнаў", "саўкоў" і г.д.), пакінуўшы самім сабе ролю меншасьці. Адукаванай, разумнай, годнай абсалютнай меншасьці. Нам трэба абавязкова разбурыць у сваёй сьвядомасьці стэрэатып, што грамадзтва нас не падтрымлівае і ніколі не падтрымае. Зь іншага боку, мы павінны пачаць прыслухоўвацца да грамадзтва, мы павінны імкнуцца адпавядаць грамадзкім патрэбам, абараняць рэальныя жыцьцёвыя інтарэсы ўсіх беларусаў. **Нацыянальныя Сілы павінны ўвайсьці ў кааліцыю з грамадзтвам, а не зь бюракратамі ці лібэраламі. Мы мусім аб'ядНаць не палітычныя эліты, але нацыю.**

З вышэйсказанага натуральным чынам вынікае, што падтрымка Нацыянальнай Кааліцыі з боку навуковай, спартовай, культурніцкай і іншых нацыянальных элітаў для нас вельмі істотная, паколькі прадстаўнікі такіх элітаў зьяўляюцца лідэрамі грамадзкай думкі й моцна ўплываюць на яе фармаваньне. Людзі давяраюць у пытаньнях палітыкі пісьменьнікам, навукоўцам і спартоўцам значна болей, чым лідэрам палітычных партыяў. Зь іншага боку, падтрымка нацыянальных элітаў патрэбная нашым актывістам дзеля большай упэўненасьці ў сваіх сілах, у слушнасьці таго, што робіць іх партыя. Разам з тым, нават нефармальная прысутнасьць усеагульна прызнаных нацыянальных аўтарытэтаў у складзе новай кааліцыі будзе дадаткова спрыяць яе самаідэнтыфікацыі як менавіта нацыянальнай.

Кожная кааліцыя павінна мець ня толькі агульную глебу для яднаньня, але й канкрэтную мэту. Такой мэтай для Нацыянальных Сілаў павінны стаць выбары ў мясцовыя саветы ў 2003 г. Мы, канечне, мусім узяць удзел у гэтых выбарах, бо далейшае самаўхіленьне ад палітычнай барацьбы на выбарах прывядзе да поўнага занядпаду структураў і канчатковага расчараваньня нашых актывістаў, так і той часткі грамадзтва, што нам спачувае. Бадай, ня трэба мець ілюзіяў адносна ўмоваў правядзеньня гэтых выбараў — мы будзем сутыкацца й зь ціскам на людзей, і з фальсыфікацыямі, але мы рэальна можам нават у такіх умовах правесьці ў органы ўлады дастатковую колькасьць сваіх людзей. Падрыхтоўку да Выбараў-2003 трэба пачаць ужо сёлета. Застаецца менш за два гады — час дастатковы, але ня болей за тое.

І, нарэшце, аб тым, якая сіла можа аб'яднаць сёньня нас усіх вакол нацыянальнай ідэі. Адказ, як і дзесяць гадоў таму, адзін – БНФ. Нягледзячы на шэраг паразаў, страту часткі прыхільнікаў, унутраныя супярэчнасьці і пошукі, шалёныя рэпрэсіі й шальмаваньне, разгубленасьць і расчараваньне сваіх актывістаў пасьля кампаніі-2001, БНФ застаецца адзінай сур'ёзнай палітычнай сілай, якая вызнае і пасьлядоўна адстойвае нацыянальныя каштоўнасьці. Натуральна, БНФ сам павінны зьмяніцца ў адпаведнасьці са сваёй новай місіяй. Шырокі антыкамуністычны рух супраціву павінны адысьці ў гісторыю разам з камунізмам, на полі палітычнага змаганьня павінна паўстаць правая нацыянальная партыя. Партыя, якая будзе цьвёрда стаяць на грунце беларускіх традыцыяў, адстойваць нашыя каштоўнасьці, якая ўспрыме нашае грамадзтва такім, якім яно ёсьць, партыя сапраўды беларуская й сапраўды народная. Партыя, што аб'яднае нацыю.

## Лісты ў рэдакцыю

# Нас усіх "кінулі"

**Пасьля абвяшчэньня вынікаў выбараў на вуліцы Менску павінен быў выйсьці незадаволены народ. Загадзя былі распаўсюджаныя ўлёткі ды налепкі з заклікам прыходзіць на Кастрычніцкую плошчу да Палацу Прафсаюзаў увечары ў нядзелю. Па некаторых FM-радыёстанцыях ды ў незалежных газэтах перадавалі заклік падтрымаць Ганчарыка.**

Штаб Ганчарыка складаўся прыкладна з 400 чалавек. Але дзе яны ўсе былі 9 верасьня? Зьніклі, як зьнікаюць пацукі з карабля, які патанае. Яны – "кінулі"! "Кінулі" ня толькі "адзінавыбранага", "кінулі" ўвесь беларускі народ, які чакаў зьменаў да лепшага апошнія сем гадоў. Каля 11-й вечара на плошчы сабралася зь пяць тысячаў чалавек. А дзе ж астатнія мільёны, якія хочуць добра жыць, але баяцца для гэтага нешта зрабіць? Могуць толькі сядзець на кухні ды за шклянкай гарэлкі распавядаць, як ім дрэнна ці скардзіцца замежнай прэсе на парушэньні правоў чалавека і свабоды слова. Замест таго, каб нешта рабіць, яны марылі, што ЗША ці Нямеччына прыйдуць бараніць нашую свабоду. Тым пяці тысячам, якія стаялі на холадзе і пад дажджом, быў патрэбны сапраўдны кіраўнік, на сто адсоткаў адданы справе, які павёў бы народ да канца, да перамогі. А што атрымалася? "Адзінавыбраны" выйшаў на прыступкі, прамямліў, што вынікі выбараў сфальсыфікаваныя і што ён будзе скардзіцца ў Цэнтравыбаркам. Пасьля спн.Палевікова сказала, каб людзі ішлі па хатах.

Наагул, факты сьведчаць, што Ганчарык не рыхтаваўся да доўгага супрацьву. Ён загадзя не дамовіўся з адміністрацыяй Палацу Прафсаюзаў, каб туды пусьцілі людзей. Становішча выратавалі "краёўцы", якія адціснулі "ціхароў" і занялі будынак. Пасьля грамады "адзінавыбраны" зладзіў невялікую прэс-канфэрэнцыю й некуды зьехаў – казалі, пайшоў спаць. Спаць, нягледзячы на тое, што да яго на падтрымку прыйшла моладзь.

У руках "адзінавыбранага" 9 верасьня быў шанец, які дадуць палітыку раз у жыцьці. Ганчарык ня здолеў выкарыстаць яго, і гэта пазначае паразу ня толькі Ганчарыка і дэмакратаў "новай хвалі", але й паразу нашага народу. Ганчарык і астатнія проста сыдуць, а народ застанецца. Наступны шанец, магчыма, будзе толькі праз пяць год. Ці зьявіцца да таго часу сапраўдны лідэр, які пойдзе да канца?

**Анатоль Васілеўскі, Менск**

# Усе ў Беларускі Агул!

**Выбары павінны працьверазіць нашых палітыкаў. Мо цяпер яны зразумеюць, што трэба зьмяніць тактыку. Перамагае той, хто вельмі хоча перамагчы. А наколькі мы хацелі перамогі? І якой перамогі?**

Адной з галоўных памылак было тое, што апазыцыя была ў асноўным супраць кагосьці, а не за штосьці. Таму мы павінны вызначыцца: хто мы, колькі нас, якую дзяржаву жадаем пабудаваць.

Па-першае, трэба ведаць, колькі ў нас тых, хто хацеў бы жыць у сапраўднай беларускай дзяржаве. Думаю, гэтая лічба складае недзе 20%. Уявіце сабе – кожны дзясяты жыхар вашага дому, кварталу ці вёскі таксама, як і вы, жадае быць беларусам. Але мы ня ведаем адзін аднаго. Трэба зарганізавацца, стварыць як бы сваю аўтаномію, адкрытую для ўсіх. У яе ўвойдуць усе беларускія (менавіта зь беларускай мовай і культурай) аб'яднаньні розных напрамкаў: палітычныя, культурніцкія, спартовыя, эканамічныя і г.д. Прапаную назоў аб'яднаньня – "Беларускі Агул".

Калі нас мільён ці два, чаму тады беларускія газэты і кнігі выходзяць такім маленькім накладам? Чаму мала беларускамоўных храмаў? У нас многа беларускіх выкладчыкаў і студэнтаў, але няма ніводнай беларускамоўнай ВНУ (а расейкамоўных недзяржаўных працуюць, і нічога). Трэба ўжо зразумець, што дзяржава для беларусаў ня робіць амаль нічога, таму мы павінны ўсё рабіць самі.

Структура аб'яднаньня павінна пачынацца зьнізу. Нізавая адзінка – гэта грамада. Яна ўключае ў сябе двор альбо квартал у горадзе й вёску альбо сельсавет у раёне. Кожная грамада ладзіць сходы, дзе вырашае, што рабіць ёй і якія парады даць вярхоўным структурам. Таксама выбіраюць дэлегатаў у гарадзкія і рэспубліканскія рады.

Адна з асноўных задачаў – выхаваньне моладзі. Трэба адчыніць свае вячэрнія школкі, куды б дзеткі прыходзілі хоць раз на тыдзень, слухалі пра гісторыю, культуру і традыцыі Беларусі, вывучалі мову і літаратуру. Таксама (хоць раз на тыдзень) варта праводзіць спартовыя заняткі, дзе б дзеці знаёміліся, загартоўваліся фізічна ды выхоўваліся ў духу спаборніцтва.

Наагул рабіць можна многа чаго, усяго й не напішаш.

**Алег Лучына, Менск**

# Нездаровы беларускі эгаізм

**Апазыцыі, як дрэннаму студэнту, не хапіла часу падрыхтавацца да выбараў. А ўсё таму, што палітыка – гэта прафэсія. Нельга, каб адзін чалавек, лідэр, меў адначасова некалькі пасадаў.**

Падрыхтоўкі да выбараў не было, была імітацыя. Спачатку барацьбу за прэзыдэнцтва аддалі намэнклятуры – "пяцёрцы". Падманулі дэмакратычнага намэнклятуршчыка (С.Домаша). В.Лявонаў, які заварыў усю кашу, разьлічваў на свае старыя сувязі, але зрабіў памылку. Начальнік у "вэртыкалі" Лукашэнкі ня будзе ахвяраваць нават самым малым — гэта ж відаць няўзброеным вокам.

Я працаваў у штабе У.Ганчарыка: большага хаосу і тлуму за апошнія 12 гадоў я ня бачыў. В.Лявонаў фактычна не захацеў праводзіць цяжкую, нармальную выбарчую кампанію, бо вырашыў "перахапіць" адміністрацыйны рэсурс у Лукашэнкі. Гэта – стратэгічная памылка.

Вось і прайгралі.

Надзея: большасьць моладзі мае здаровы сэнс і жадае пераменаў. Трэба працаваць зь ёй.

Выйсьце: поўная, 100-працэнтная, ратацыя лідэраў апазыцыі.

Пераарыентацыя на шырокую асьветніцкую працу для моладзі і культурніцкую працу сярод грамадзян, на пашырэньне прававых ведаў. Наступныя два гады адмовіцца ад палітычных акцыяў.

Дрэва ўжо вырасла, але да яблыкаў яшчэ доўга... Не зламаць бы дрэва.

**Вітаўт Невядомы, Менск**

# Прытулак нямецкіх пэнсіянэраў

**На мінулым тыдні, у часе свайго візыту ў Нямеччыну, Пуцін паабяцаў, што ў выпадку складанасьцяў з пастаўкамі нафты й газу з Блізкага Ўсходу, Расея гатовая павялічыць свае пастаўкі на Захад. "Падмацаваньне" будзе ісьці празь беларускую тэрыторыю.**

Беларускае пытаньне падчас візыту Пуціна не абмяркоўвалася. Эўропа пасьля выбараў і нью-ёрскіх тэрактаў, падобна, махнула на нас рукою.

Нават для найбліжэйшай да нас Нямеччыны Беларусь дагэтуль не *Belarus*, а *Weissrussland*. У афіцыйным даведніку Міністэрства замежных справаў Нямеччыны ёсьць асобны разьдзел пра нямецкія інтарэсы й палітыку нават на Мальце, але Беларусі для немцаў нібыта й няма — на ўсю кніжку тры згадкі.

Нядзіва, што інтарэсы Нямеччыны тутака будзе прадстаўляць дыпламат перадпэнсійнага веку. Новаму паслу ў Беларусі Вільгельму Фрыку, які на пачатку кастрычніка заменіць у Менску Горста Вінкельмана, праз тры гады будзе 65, і ягоная дзяржаўная служба аўтаматычна скончыцца. Нямецкія аналітыкі, якія гутарылі зь Вільгельмам Фрыкам, кажуць, што новы амбасадар Нямеччыны ў Беларусі дэманструе поўную пераемнасьць папярэдняй замежнапалітычнай лініі. Некаторыя называюць Фрыка асобай, блізкай да таксама ўжо не маладога Ганса-Георга Віка. У свой час тое самае казалі пра Горста Вінкельмана. Вік дамінаваў, і на яго тле нямецкая амбасада выглядала слабейшай.

Сяргей Рак

**ВІЛЬГЕЛЬМ ФРЫК (нар.1939) мае юрыдычную адукацыю. Працаваў у МЗС Нямеччыны, па тры гады ў Румыніі і Польшчы, валодае румынскай і польскай мовамі. Прызначэньне на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ў Беларусі — найвышэйшы пункт ягонай кар'еры. Адначасова гэта апошняе ягонае прызначэньне.**

**Прадстаўнікі нямецкіх колаў, якія актыўна супрацоўнічаюць зь Беларусяй, сп.Фрыка характарызуюць як чалавека, які надзвычай добра разьбіраецца ў беларускай сытуацыі.**

## Мяжа


IREX-PROMEDIA

### Мігранты пранікаюць з Расеі

**У Гомельскай вобласьці на мяжы з Украінай затрымалі 20 аўганскіх уцекачоў.**

Аўганцы знаходзяцца пад арыштам у Гомелі, памежнікі высьвятляюць іхныя асобы і спраўджваюць, ці не ваяваў хто зь іх у Чачэніі, бо ў Беларусь аўганцы прыехалі з Расеі.

Сёлета затрымана 186 парушальнікаў мяжы — удвая больш, чым летась. Каля траціны іх — з Аўганістану. Злоўленых нелегальных мігрантаў найчасьцей высылаюць назад у Расею, але якая з таго карысьць, калі расейска-беларуская мяжа не кантралюецца і ўцекачы ізноў прыходзяць у Беларусь.

Язапат Змысла

## Погляд зь Вільні

# Больш Літва, чым Лібія

**Роля Амэрыкі ў Беларусі апошнімі гадамі стала значная. Але, на жаль, неадназначная.**

Яшчэ задоўга да прэзыдэнцкіх выбараў кіраўніца аднаго амэрыканскага прадстаўніцтва ўздыхнула ў скрусе: навошта мы сюды прыйшлі, болей шкоды нарабілі (са "сваёй дэмакратыяй")... У гэтым уздыху няма праўды, ёсьць нераzуменьне. Адзіная памылка амэрыканскае палітыкі ў Беларусі ў тым, што надумлялі нам то югаслаўскі, то нават нікарагуанскі варыянт, ігнаруючы той факт, што Беларусь - *краіна свайго рэгіёну*. Адно што крыху больш за Чэхію, Польшчу і Літву (дзе найноўшыя амэрыканскія схемы спрацавалі як трэба) калянізаваная. Але "крыху" ня лічыцца. Ёсьць прынцыпы дэмакратыі, якія гадуюцца на глебе незалежнасьці і нацыянальнай дзяржаўнасьці. Так было ва ўсіх, так мусіла быць і ў нас. Усё іншае прыводзіць да падмены паняткаў, паслабляе маральную большасьць грамадзтва, выклікае блытаніну і апатыю. Разглядаючы нас усё больш як Лібію, нашыя спрыяльнікі і вырабляюць з нас Лібію.

Варта пагаманіць з амэрыканскім кангрэсмэнам, каб зразумець, што бачаньне нашай краіны ў яго адэкватнае, што прынцыпы незалежнасьці і дэмакратыі - неадрыўныя. А варта сустрэцца з супрацоўнікамі "на месцах", каб усё гэта паплыло, каб зьвяўся аднекуль гэты каляніяльны рудымэнт расейскае мовы (нібыта "даніна рэаліям"), цябе намаўляюць выдаваць апазыцыйную прэсу і гаварыць у апазыцыйным радыё па-расейску і графіці пісаць па-расейску ("Где Гончар?"), несучы тым самым раскол і дэмаралізацыю ў апазыцыйнае асяродзьдзе.

Адкуль гэта? Чаму ў Літве ў часы "Саюдзісу" і "Інтэрфронту" амэрыканская палітыка не чаплялася за расейскую мову? Там жа і сапраўды народ быў расколаты паводле моўнага прынцыпу. Многія патэнцыйныя дэмакраты па-літоўску не разумелі. Аднак не было там такога. Бо тады нічога б ня выйшла, не спрацавалі б амэрыканскія схемы выхаду з камунізму. Як у нас яны не спрацавалі на мінулых выбарах, аслабіўшы маральна нашу "адзіную" апазыцыю.

Самае амэрыканскае наша радыё - Свабода - чыя палітыка ажыцьцяўляецца непасрэдна з Вашынгтону - спрэс беларускае. Бо ў Вашынгтоне ясна, што дэмакратыя пачынаецца з усьведамленьня нацыянальных інтарэсаў, з мысьленьня маштабамі сваёй краіны і сваёй культуры, зь незалежнасьці. Беларусы штo-небудзь могуць зьмяніць толькі ў сябе і ў сваім. А не на эўразійскай прасторы, дзе ім пяць тэлеканалаў забіваюць галаву постсавецкімі фантомамі, і не з чужой мовай у роце і ў галаве.

Не, гэта не задача амэрыканцаў - вучыць беларусаў мове. Задача - не накідаць расейшчыны. Мы разьбярэмся самі.

Няма беларуса, які б не разумеў па-беларуску. Але няма яшчэ беларуса, які б асацыяваў сябе з маштабамі сваёй краіны і тых задач, якія перад гэтай краінай стаяць. Таму нашы палітыкі больш любяць гаварыць пра "фактар Масквы", а эмісары Амэрыкі разважаюць пра "рэаліі", якія скляліся ў іхных менскіх офісах. Беларусь тут не разглядаецца як звычайная краіна свайго рэгіёну і свайго маштабу - як Чэхія, як Польшча, як Літва. Таму, урэшце, і выніkі палітычных кампаніяў у нас - *не такія*. Не нармальныя.

Гэта праўда, што Лукашэнка прадае зброю налева і направа, але гэта не падстава выраблiць зь Беларусі Нікарагуа ці Калюмбію. Мы - краіна свайго рэгіёну. І толькі ў разуменьні гэтага можа знайсьці сілы маральная большасьць нашага грамадзтва, якая спыніць урэшце той збройны гандаль.

Балесная амэрыканская трагедыя, што паклікала да жыцьця перагляд многіх аспэктаў палітыкі ЗША, у дачыненьні да Беларусі мусіла б прывесьці да канца гэтай раздвоенасьці. Адна незалежнасьць, адна дэмакратыя, адна Беларусь.

Сяргей Дубавец

## Нямеччына



### Бэрлін перафарбоўвае Браму

**Бэрлінцы выбіраюць колер для слыннай Брандэнбурскай брамы.** У часе ранейшых рэстаўрацыяў яе ўжо фарбавалі ў восем розных колераў. "Неўжыванымі" засталіся белы, шэры, колер вохры і натуральны колер пяшчаніка. Цяпер побач з брамай усталяваныя алебастравыя мадэлі адпаведных колераў са "скрынямі для галасаваньня", у якія месячны кідаюць манэткі ў адзін фенік і гэткім чынам робяць свой выбар на карысьць таго ці іншага варыянту.

# Таямнічы візыт

**У Менск на мінулым тыдні прыяжджаў зь візытам лідэр непрызнанае Прыднястроўскае Рэспублікі Ігар Сьмірноў.** Яго нечакана прыняў сам Лукашэнка. Ніколі і нідзе раней Сьмірнова не прымалі на ўзроўні кіраўніка дзяржавы. Кішынэўская прэса адразу ж ахарактарызавала ўчынак А.Лукашэнкі як эксцэнтрычны і недружалюбны. Калі сустрэча ня мела міратворчых мэтаў і не была загадзя ўзгодненая з уладамі Малдовы, гэта можа прывесьці да пагаршэньня беларуска-малдаўскіх адносінаў, што ў сваю чаргу можа нэгатыўна адбіцца на аб'ёме выгаднага для Беларусі гандлю з Малдовай. Гэта тым больш дзіўна, што новы прэзыдэнт Малдовы шмат разоў дэклараваў намер яшчэ палепшыць двухбаковыя стасункі.

Барыс Тумар



# Той, хто наводзіць масты

**Папа Рымскі Ян Павал II наведаў Казахстан і Армэнію. У Казахстан яго запрасіў прэзыдэнт краіны Нурсултан Назарбаеў. Прыезд быў прымеркаваны да 10-х угодкаў незалежнасьці краіны.**

Перш-наперш Папа ўсклаў вянок да помніку ахвярам бальшавіцкіх рэпрэсіяў у Астане і заклікаў усіх хрысьціянаў "будаваць сьвет бяз гвалту". У Казахстане невялікі адсотак каталікоў — збольшага зь ліку нашчадкаў рэпрэсаваных у 30—50-я "палякаў", але сустракаць Яна Паўла II сабралася звыш 50 тыс. чалавек. Былі пілігрымы з Томску, Краснаярску, Ташкенту. Яны запрашалі Яна Паўла ў свае гарады, а на найбольшым плякаце, які трымалі вернікі, было пытаньне: "Папа, калі ўжо ў Маскве?"

Расейская праваслаўная царква адмоўна рэагавала на візыт пантыфіка ў Казахстан. Мауляў, гэта можа распаліць міжрэлігійныя канфлікты. Кіраўніцтва ж праваслаўнай япархіі Казахстану палічыла, што нічога заганнага ў візыце Папы няма.

Прыезд Яна Паўла даў дадатковыя палітычныя балы Назарбаеву, якога раз-пораз вінавацяць у аўтарытарызме.

Пасьля Казахстану Папа ўзяў удзел у сьвяткаваньні 1700-годзьдзя Армянскай апостальскай царквы. Ян Павал II наведаў Цыцарнакабэрд — мэмарыял памяці ахвяраў турэцкай разьні 1915 г. Ён прывёз у падарунак арыгінал ліста папы Бэнэдыкта XV турэцкаму султану з заклікам перапыніць генацыд армянаў. Расчулены Шарль Азнавур, што прысутнічаў на урачыстасьці, выканаў "Авэ Марыю". Расея не пратэставала супраць візыту пантыфіка ў Армэнію. Армэнія — ня вотчына РПЦ, але Алексій II дэманстратыўна наведаў Ерэван за пару дзён да папы, і спадзяваньні на сустрэчу Папы і патрыярха выявіліся марнымі.

Папа ўжо старэнькі. Яму цяжка перасоўвацца, і шлях да сьвятога армянскага месца пачатку хрысьціянства — Эчміядзіну, які трэба ісьці пешкі, ён праехаў машынай. Нягледзячы на старасьць і хваробы, ён вандруе па сьвеце, несучы радасьць вернікам.

"Пантыфік" у перакладзе з лаціны — той, хто наводзіць масты. І гэта ў Яна Паўла пасьпяхова атрымліваецца. Казахстан і Армэнія сталі 127-й і 128-й краінамі, якія ён наведаў.

Беларусь пакуль скача пад дудку Масквы, і дазвол на прыезд пантыфіка пакуль залежыць ад волі Маскоўскае патрыярхіі. Шкада, бо візыт Яна Паўла II паспрыяў бы выхаду краіны зь міжнароднае ізаляцыі. Ня кажучы ўжо пра імшы, якія Папа справіў бы па-беларуску на менскім і гарадзенскім пляцах.

Эдвард Людовіч



## Расея

### Замярзаюць людзі

**У чацьвер у Маскве ад пераахаладжаньня памерлі тры чалавекі.** "Хуткая дапамога" па іх прыехала, але запозна. Лік ахвяраў холаду за сёлета ў Маскве дасягнуў пяці чалавек. Што ж будзе ў маразы?

## Чэхія

### Гавал ачуняў



**Нядаўна Вацлаву Гаўлу зрабілася дрэнна з сэрцам: у шпіталь яго прывезьлі проста з самалёта, на якім чэскі прэзыдэнт ляцеў у Італію.** Жыцьцё Гаўлу выратаваў электрашок.

## Украіна

### 15 год забойцам Білазіра

**Львоўскі суд даў забойцам вядомага ўкраінскага кампазытара Ігара Білазіра 12 і 15 гадоў турмы.** Забілі Білазіра за тое, што запярэчыў двум падпітым наведнікам кавярні, якія патрабавалі ўключыць для іх расейскія блатныя песьні. Сям'і забітага злачынцы выплацяць 150 тысячаў грыўняў кампэнсацыі (гэта пад 25 тыс. даляраў).

### Microsoft па-ўкраінску

**Праграмы кампаніі *Microsoft* перакладуць на ўкраінскую мову.** Пра гэта паведаміў міністар асьветы й навукі Ўкраіны В.Крэмень.

## Польшча

### Суседзі на арбіце

**Палякі стварылі сваю касьмічную агенцыю.** Найперш яна будзе займацца кантактамі з Эўрапейскай касьмічнай агенцыяй і навуковымі досьледамі.

### Палякі хочуць на заробкі

**Дарадчая фірма *PricewaterhouseCoopers* апублікавала інфармацыю пра тое, што 40% палякаў працаздольнага веку хацелі б працаваць і жыць за мяжой** — перадусім у краінах ЭЗ (53% зь іх), найперш у Нямеччыне (25%).

Польскія сацыёлягі ставяць пад сумнеў гэтыя зьвесткі, спасылаючыся на выніkі апублікаванага ў *Gazecie Wyborczej* дасьледаваньня *Omnibus Member CRW*, згодна зь якім 73,5% палякаў заявілі, што ня хочуць нікуды зьяжджаць ні ў якім выпадку. Спрэчка ж завялася таму, што польскі ўрад спрабуе дабіцца для палякаў права працаваць у краінах Эўразьвязу, а заходнія краіны Зьвязу, перадусім Нямеччына, баяцца гэткага напльыву працоўных рук і хацелі б заканадаўча абмежаваць права грамадзянаў новых удзельнікаў ЭЗ. Таму кажуць, што апытаньне *PricewaterhouseCoopers* было замоўленым, каб давесьці Брусэлю небясьпеку "польскае навалы".

## Кыргыстан

### Кіргізы здаюцца

**Пры канцы кастрычніка парлямэнт Кыргыстану зьбіраецца надаць расейскай мове роўныя з кіргіскай правы.** Старшыня Сходу народных прадстаўнікоў Кыргыстану Алтай Барубаеў матывуе гэта патрэбай спыніць ад'езд расейскамоўнага насельніцтва з Кыргыстану.

С.Р.

# Welcome MTC!

## *Пачынаецца вайна тарыфаў*

**25 верасьня расейскае ААТ *Мобильные Телесистемы* (МТС) выйграла тэндэр на атрыманьне другой ліцэнзіі на забесьпячэньне лічбавай сотавай сувязі ў Беларусі. Кампанія пляную давесьці да 2005 г. колькасьць сваіх абанэнтаў да паўмільёна. Дзеля гэтага яна абяцае зьнізіць тарыфы ўдвая ўжо сёньня.**

Сярод іншых удзельнікаў тэндэру фігуравалі расейскія *Северо-Западный GSM* і *Альфа-Эко*, аўстрыйская *Dr.Karl J.Pisec Gmbh*, савудаўская *Saudi Oger Ltd*. За ліцэнзію *МТС* мусіць падкінуць у беларускі бюджэт 21 млн. даляраў — 15 у гэтым месяцы, а яшчэ шэсьць — да 2005 г. Але рэальная дзейнасьць кампаніі на абшары Беларусі пачнецца толькі ад 17 красавіка 2002 г., калі скончыцца тэрмін ліцэнзійнай дамовы паміж Міністэрствам сувязі Беларусі і СП *Мобильная цифровая связь* (МЦС), ведамым тут пад гандлёвымі маркамі *Velcom* і *Privet*. Новы ж апэратар будзе гаспадарыць як сумеснае прадпрыемства: кантрольны пакет застанецца за беларускай дзяржавай у асобе ўнітарнага прадпрыемства "Міжнародная сувязь", і толькі 49% будуць расейскімі. Дый ці расейскімі? Акцыі *МТС* цяпер падзеленыя паміж расейцамі з Акцыянэрнай фінансавай карпарацыі *Система*, якім належыць кантрольны пакет, ды нямецкай бізнэс-акулай *Deutsche Telecom (DeTeMobil)*, у кішэнях якой асела крыху больш за 40%. У выніку, прэзыдэнтам кампаніі зьяўляецца Міхаіл Сьмірноў, а старшынём Рады дырэктараў — Райнэр Геніке.

Тое ж маем і зь іншымі расейскімі апэратарамі. Прыкладам, *Северо-Западный GSM* — гэта расейска-скандынаўскі праект: грошы там ёсьць і фінскія, і швэдзкія, і нарвэскія.

Першы ж беларускі апэратар — кампанія "Белсэл" — быў утвораны яшчэ да Лукашэнкі, у 92-м, прадпрыемствамі сувязі Беларусі і брытанскай кампаніяй *Cable & Wireless Plc*. Цяперака 50% акцыяў фірмы належыць нідэрляндзкай *CIB BV*, што ўваходзіць у склад транснацыянальнай карпарацыі *Metromedia International Group Inc.*, 45% — "Менскай гарадзкой тэлефоннай сувязі", 5% — "Менскаблтэлекаму". *GSM*-аўская *Мобильная цифровая связь* — сумеснае прадпрыемства з удзелам швайцарскай *SB-Telecom*, беларускага манапаліста "Белтэлекам" і ваенізаванай кампаніі "Белтэхэкспарт".

Так што праціўнікі пранікненьня расейскага алігархічнага капіталу могуць супакоіцца: інвэстары напалову эўрапейскага паходжаньня. Але невядома яшчэ, каму заўтра будуць належаць яны самі альбо каму заўтра, з чагосьці запанікаваўшы, прададуць свае пакеты.

Беларусь ня можа пахваліцца шырокім выкарыстаньнем мабільных сродкаў сувязі: на верасень 2001 г. агульны лік абанэнтаў ледзьве перавышае 100 тыс. (1% ад усяго насельніцтва): больш за 85 тыс. у лічбавага апэратара *Velcom* і пад 20 тыс. у "Белсэлу". Дэкляраваная *Мобильными телесистемами* стратэгія палягае ў напорыстай экспансіі па ўсёй Расейскай Фэдэрацыі: атрымліваюць ліцэнзіі ў яшчэ не асвоеных сотавай сувязьзю рэгіёнах, скупляюць дробных правінцыйных апэратараў: омскіх, удмурцкіх, цьвярскіх. Яшчэ ўвесну кіраўніцтва кампаніі ясна не паказвала свайго намеру распачаць падзел беларускага пірага, у рэкляме акцэнт рабіўся на піянэрскасьць, кшталту: "*Мы первые в N-ске!*" Дасёньня на першай старонцы афіцыйнага сайту *МТС* ні слова пра Беларусь, а толькі раднасае паведамленьне пра адкрыцьцё *МТС* у Ніжнім Ноўгарадзе 26 верасьня.

Ёсьць і іншыя клопаты стратэгічнага характару. Сёлета *МТС* знаходзіцца ў стане халоднай вайны зь іншым прэтэндэнтам на беларускі вулей — кампаніяй з сымбалічным назовам *Северо-Западный GSM*, які набыў ліцэнзію на права забесьпячэньня сотавай сувязі ў паўночнай сталіцы Расеі, прыўлашчыўшы тамтэйшага апэратара *Телеком XXI*. У Пецярбургу, як і ў Беларусі, козырам *МТС* абвяшчаецца істотнае заніжэньне тарыфаў, лягічнае пры дуаполіі** на рынку. Для *МТС* пранікненьне ў піцерскі рэгіён двукроць больш ласае, чым экспансія ў Беларусь: там за ліцэнзію *Мобильные Телесистемы* аддалі 50 млн. даляраў проці нашых 21 млн. Экспэрты адзначаюць, што ў Пецярбургу *МТС* выбіцца ў лідэры будзе значна цяжэй, чым у Маскве: GSM ужо захапіў 70% існага рынку, мае лепшае абсталяваньне (камутатары* і базавыя станцыі), і, самае галоўнае, маскоўцы тут ня маюць важкіх "падвязак" ва ўладных структурах, як у Маскве: асноўны акцыянэр *МТС — АФК Система* — вельмі блізкі да лужкоўскага ўраду, таму ў сталіцы Расеі яны мелі ільготныя кошты на падлучэньне да гарадзкой тэлефоннай сеткі, карт-бляншна разварочаньне сотавай сыстэмы ў мэтрапалітэне і г.д.

Калі ўлічыць, што рынкавыя сытуацыі ў Паўночна-Заходняй Расеі і Беларусі вельмі падобныя (дуаполія на рынку лічбавай мабільнай сувязі, наяўнасьць апэратараў аналягавага стандарту *NMT*-450), можна дапусьціць, што экспансійная стратэгія будзе тая самая. *МТС* у Пецярбургу, каб прывабіць кліентаў, ужо сёлета ўвядзе адразу ўвесь пакет ільготаў, да якіх у Маскве ішоў гадамі: дармовае падлучэньне, пасэкундная тарыфікацыя ад другое хвіліны размовы, ільготныя начныя гадзіны, апараты выключна па сабекошце ці нават зь невялікай датацыяй. Раскрутка кампаніі палягае збольшага на задзірлівай барацьбе з канкурэнтамі (у нашым выпадку — *Velcom*'ам), двухразовай зьніжцы на ўнутрысеткавы роўмінг*** і міжнародныя размовы.

На сёньня "труба" ў Беларусі пакуль яшчэ застаецца дарагой забаўкай, у адрозьненьне ад эўрапейскіх краінаў, дзе колькасьць абанэнтаў сотавае сувязі перавышае агульную лічбу хатніх стацыянараў. У нас "Белсэл" і *Velcom* дзяруць за падлучэньне пры набыцьці апарату ў кампаніі — 12,5 і 126 тыс., за падлучэньне сваёй слухаўкі — 32,5 і 166 тыс., абанэнцкую плату — ад 8 да 99 тыс. (у залежнасьці ад тарыфнага пляну) і 17,2 тыс., хвіліна размовы зь іншай унутрысеткавай мабілай каштуе 112—143 і 280 руб., з гарадзкім стацыянарам — 134—172 і 350 руб., з замежжам — 1325—4187 і 1130—2950 руб. у залежнасьці ад рэгіёну — краіны СНД ці заморскія зоны. Абодва апэратары даюць зьніжкі на начныя размовы, прапануюць кліентам сотавікі розьнай "дальнабойнасьці".



**У Кітаі штомесяц зьяўляецца мільён новых абанэнтаў сотавай сувязі**

Два галоўныя мінусы аналягавага апэратара "Белсэл" — плата за ўваходныя званкі і немагчымасьць карыстацца апаратамі па-за межамі краіны. Першая хіба ўжо выпраўляецца кампаніяй — уводзяцца "доўгія" нумары, што пачынаюцца з "8", і цяпер за ўваходныя тэлефанаваньні плаціць не карыстальнік, а ягоны суразмоўца.

Колішні манапаліст "Белсэл" пайшоў на істотныя саступкі менавіта пасьля прыходу на беларускі рынак *Velcom* у красавіку 99-га. І ўсё ж большасьць спажыўцоў будзе абіраць *GSM* з прычыны міжнароднасьці гэтага стандарту: на сёньня *Velcom* падпісаў пагадненьні з 121 апэратарам з 59 краінаў сьвету. Таму за гэты год кліентура "Белсэл" павялічылася ўсяго на колькі тысячаў (з 17 тыс. у сьнежні 2000 г. да 20 тыс. цяпер), а *Velcom* здолеў памножыць колькасьць сваіх сымпатыкаў у некалькі разоў (з 27 да 85 тыс.).

Шчыруюць апэратары мабільнага даеньня і на ніве бэнэфіцыянцтва: "Белсэл" даў магчымасьць падлучыцца да сотавай сувязі жыхарам забруджаных радыяцыяй раёнаў, ладзіць спартовыя мерапрыемствы, спаборніцтвы па біятлёне, футболе, барацьбе, панадзіўся дапамагаць Фінбергаваму аркестру. *Velcom* падтрымлівае Нацыянальны алімпійскі камітэт, аказвае дабрачынную дапамогу "Беларускаму дзіцячаму госьпісу".

А пранікненьне ў Беларусь *МТС* станецца пачаткам новай цэнавай вайны. Сьведчаньнем таму — пільная зацікаўленасьць разьвіцьцём падзеяў з боку Лукашэнкі, які ўскосна прызнае "ненатуральнасьць" адбору апэратараў, бо ў барацьбу за пэрспэктыўны рынак "уцягваецца і той-сёй з дзяржаўных служачых". Ходзяць чуткі, што вылучэньне Наталі Машэравай і яе наступнае зьняцьцё мелі цесную сувязь з удзелам і наступнай перамогай *МТС* у беларускім тэндэры.

Ані прадстаўнікі *МТС*, ані рэальныя на сёньня беларускія апэратары пра свае пляны на 2002 г. нічога канкрэтнага ды ўцямнага ня кажуць.

Год пачатку рэальнае канкурэнцыі на рынку мабільнае сувязі для нас, мабільных, але ня дужа заможных людзей, можа зрабіць зразумелым, што беларуская прыказка пра пасвараных паноў не заўжды актуальная: ад такой панскай бойкі ў мужыка трашчаць лоб ня будзе, хіба толькі слухаўка недзе ў раёне вуха.

Не за гарамі, відаць, час, калі ў Беларусі пачнуць зьнікаць ідыёмы кшталту "Кінула (паклала, павесіла) слухаўку" і прыйдуць новыя: "Да маёй маці, у Бацэвічы, мабільнік не дабівае".

**Абанэнт**

* Камутатар — станцыя сувязі.
** Дуаполія — панаваньне двух уласьнікаў
*** Роўмінг — забесьпячэньне сувязі на пэўнай тэрыторыі.

НАША НІВА

**КОШТ РЭКЛЯМЫ** (за 1см², з улікам ПДВ)

1 см²

| | |
|---|---|
| Першая паласа | 791 руб. |
| Апошняя паласа | 690 руб. |
| Унутраная паласа | 629 руб. |

**Для агенцтваў, рэдакцый газэт** (пры абмене рэклямна-інфармацыйнымі матэрыяламі), **некамэрцыйных арганізацый** (грамадзкіх арганізацый, фондаў ды інш.) — магчымая зьніжка **да 30%.**
Пры разьмяшчэньні **тэкстаў-матэрыялаў** рэклямнага характару магчымая зьніжка **да 50%.**
Зьніжкі прадугледжваюцца і пры разьмяшчэньні некалькіх абвестак запар, абвестак буйнога памеру.

*Рэкляма ў "НН" — гэта добрая рэпутацыя ў вачах дзясяткаў тысяч самых уплывовых чытачоў краіны.*

# З мабілай да магілы

**Як вядома, выкарыстаньне мабільных тэлефонаў – досыць шкодны занятак. Сёлета ўвёсну я, як перакладчык, мусіў паехаць у Маскву, дзе нас у гатэлі сустракаў амфітрыён – 35-гадовы бразылец Сэрджыё, які 12 год пражыў у Расеі, чалавек дасьціпны й сьмяшлівы. Падыходзім да яго ў холе, а ён нам махнуў ляніва рукою, і далей як дурны ходзіць туды-сюды і сам з сабою размаўляе. Я быў ужо гатовы запісаць Сэрджыё ў вар'яты, але раптам убачыў у яго маленькі навушнік, ад якога ішоў дроцік да мабільніка на поясе. На дроціку – мікрафон.**

Як выявілася, расейскія ўлады забаранілі браць у рукі сотавікі падчас кіраваньня аўтом. Вось апэратары і знайшлі такое выйсьце. Пытаюся ў Сэрджыё, чаму ж зараз, у гатэлі, ня ўзяць слухаўкі ў руку, зручней жа. А той: "Мабілы выпраменьваюць розную брыду, а я яе да сваёй галавы падносіць буду? Не, галава – самае галоўнае, што ёсьць у мужчыны. Безь яе жыць нельга". "Дык і тут, унізе, таксама важны орган. Што ж за жыцьцё безь яго?" І тут бразылец, ні слова мне ня кажучы, падклікае аднаго зь беларускіх дэлегатаў – пажылага, зь сівізною мужчыну: "Таварыш, распавядзі маладому чалавеку, як можна жыць бяз гэтага. Я ж пакуль ня ведаю, а ў цябе такі-сякі досьвед, відаць, ужо ёсьць".

Гэта сьмехам. А калі сур'ёзна, дык усе прылады, зь якімі сутыкаецца чалавек у будзённым жыцьці, у тым ліку сотавы тэлефон, бясьпечныя, з пункту гледжаньня электрамагнітнага поля ўжо на адлегласьці аднаго мэтру. Ясна, што размаўляць па тэлефоне, адстаўляючы яго на мэтар ад сябе нязручна, але калі ля вуха трымаць толькі слухаўку, спалучаную дротам з рэштай корпусу, то гэта зьмяншае апраменьваньне на 92%.

Калі ж вы карыстаецеся сотавым тэлефонам звычайным спосабам, простым доказам шкоднага ўзьдзеяньня ёсьць награваньне галавы ў месцы яе дотыку да апарату: тэмпэратура тутака будзе вышэйшая прыкладна на 2 °С за суседнія зоны. З такімі моцнымі энэргетычнымі ўзьдзеяньнямі чалавек больш нідзе не сутыкаецца. Згодна са швэдзкімі і фінскімі дасьледаваньнямі, сотавік узьдзейнічае на цэнтральную нэрвовую сыстэму, прытупляе рэфлексы. Тое ж і з памяцьцю. Залетась у Швэцыі і Нарвэгіі дасьледавалі 12 тыс. карыстальнікаў мабільнікаў, дык 20% зь іх скардзіліся на галаўны боль, цяжкасьці з памяцьцю і канцэнтрацыяй. Гэта былі самыя актыўныя карыстальнікі. Залежнасьць паміж часам карыстаньня й зьменамі нэрвовай сыстэмы амаль даказаная, але гэта зусім ня значыць, што выкарыстаньне сотавага правакуе нейкія хваробы: зафіксаваныя зьявы могуць быць часовымі дый не выклікаюць цяжкіх наступстваў.

Эўразьвяз выдаткаваў на дасьледаваньне ўзьдзеяньня "мабілы" на здароўе 20 млн. эўра, столькі ж далі вытворцы тэлефонаў. Створаны адмысловы фонд, што будзе займацца такімі дасьледаваньнямі.

Ужо цяпер адмыслоўцы распрацавалі шэраг парадаў. Яны кажуць, што найбольш шкодна карыстацца сотавікам у правінцыі, на мяжы перадавальных магчымасьцяў, калі дзеля сувязі спажываецца максымум энэргіі, частка якой трапляе і да вашае галавы. Дзеля свайго здароўя паклапаціцеся таксама пра лепшую сувязь – устаньце, падыдзіце да акна, выйдзіце з машыны. Ня варта верыць у нейкія накладкі, што нібыта зьмяншаюць выпраменьваньне. Гэта лухта, бо прынесьці яны могуць толькі шкоду: пагаршаецца сувязь, і тэлефону даводзіцца ўзмацняць сыгнал, які зноў жа абрынаецца на вашую галаву.

Вялікая розьніца існуе і паміж рознымі мадэлямі. Лепш выбіраць тэлефон з антэнкай – усё ж далей ад галавы. Найлепш мець дзьвюхсыстэмны тэлефон, каб у месьце ён працаваў на частаце 1800 Мгц, а па-за местам на 900 Мгц. Чалавечая ж галава мае рэзанансавую частату 400 Мгц, гэта значыць хвалі такой самай даўжыні найбольш узьдзейнічаюць на мозг.



Першыя "мабілы" працавалі на частаце 450 Мгц. Цяпер у местах найбольш пашыраныя сыстэмы, што працуюць на 1800 Мгц. Гэтыя тэлефоны патрабуюць менш магутнасьці, але для іх неабходная гусьцейшая сетка станцыяў.

**Готліб Дымза**

# Менск бяз памяці



IREX-PROMEDIA

Сяргей Паўлоўскі

Дом №3 на вуліцы Дзімітрава ў Менску ўсё ж зьнесьлі. Даўно зьбіраліся, але ўсё нешта замінала. Пасьля публікацыі ў "НН" і праграмы "Вострая Брама" Радыё Свабода паўтара году таму ўсчаўся гоман у творчых асяродках, і разбурэньне дому было прыпыненае. За гэты час зьмяніліся абаронцы. Калі першапачаткова гаварылася, што на Дзімітрава, 3 у мастакоўскіх майстэрнях вяршылася найноўшая беларуская гісторыя, дык пасьля ўзгадалі, што будынак — колішняя сынагога.

Апошнім часам за дом змагаліся толькі габрэйскія арганізацыі. Яны й сапраўды нямала зрабілі, прынамсі, яшчэ да зьнішчэньня назвалі паіменна ўсіх разбуральнікаў. Аднак тая ранейшая ідэя згубілася. Што было на руку ініцыятарам зносу. Няхай, маўляў, габрэі змагаюцца, усё адно сынагогі тут ніхто аднаўляць ня будзе. Функцыянэры Саюзу мастакоў пагадзіліся на знос, бо ў новым будынку, які паўстане на гэтым месцы, ім паабяцалі некалькі кватэраў і майстэрняў. Верагодна, на дне іхных душаў варушыўся сумнеў — надта ж памятнае месца, але мэркантыльны плян перамог.

Дом на Дзімітрава, 3 — цалкам унікальнае для Менску месца. Нічога падобнага больш няма. Гэта ўся пасьляваенная беларушчына — яе сьлед. Нашая культура, наш дысэнт, нашая адраджэнская палітыка. І ўсё гэта — у абсалютна аўтэнтычным выглядзе. Да бясконца доўгага пераліку тых, хто тут перабываў, варта дадаць таямнічасьць першых падпольных вечарынаў і жарсьці першых сходак нацыянальнае апазыцыі. Магчыма, у нас ня вырабілася яшчэ здольнасьць глядзець на ўчарашнія падзеі як на гісторыю, але, вынішчаючы памяткі гэтых падзеяў, мы не пакідаем ім нават шанцу зрабіцца калі-небудзь гісторыяй.

Адна справа, калі пасьля знакамітага мастака застанецца ягоная раскошная майстэрня, на якую адразу накінуцца новыя прэтэндэнты і памяць растане ў паветры. І зусім іншая справа — цэлы стары дом, які складаўся з майстэрняў і праз які прайшло само наша кволае адраджэньне. У іншай краіне, зь ліку тых, якія мы называем цывілізаванымі, лёс такога дому быў бы перадвызначаны. Музэй найноўшай гісторыі і культуры. А тут... Памянялі музэй на некалькі кватэраў. Усё. Яшчэ адзін куток у цэнтры гораду стане бястварым і бяспамятным.

Музэю на Дзімітрава, 3 ня будзе ніколі. Плён пакаленьняў, якія прайшлі праз гэтае месца, пастаўлены пад сумнеў. А галоўны іхны плён — беларускае адраджэньне і беларуская незалежнасьць. Чаму так атрымалася? Стаміліся змагацца? Стаміліся верыць у гэты горад, у вартасьць уласных плёнаў, у нацыянальную будучыню, у Беларусь? Няма запалу, зь якім начамі рыхтавалі першыя выставы, прысьвечаныя Цётцы і Гусоўскаму, зь якім малявалі замкі? Ня выстаялі?

Ад нівэляванага Менску пакуль яшчэ ратуе сама Беларусь — мястэчкі, вёскі і тыя ж узьлескі з дарогай, асьветленай сонцам. У сталіцы за мінулае лета прапала самая старая вуліца — Замкавая, і вось цяпер зносіцца патэнцыйны музэй найноўшай культуры і гісторыі. На правінцыі зьяўляюцца новыя музэі, асяродкі ды краязнаўчыя ініцыятывы. Верагодна, дзейнічае закон захаваньня беларушчыны ў прыродзе: тут адымаецца, там дадаецца.

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Плусты Ашмянскага пав.** Сабіраўся напісаць колькі слоў у газэту "Нашу Ніву" аб маёй вёсцы, але ня меў часу, бо быў заняты гаспадарчай работай, а цяпер трохі адрабіўся і бяро пяро ў замуленую ад сахі руку і пішу аб сваёй вёсцы. Дзякуй Богу, у нашай вёсцы ўсякі ўмее чытаць і пісаць, і не заглядае да Шмулі і да Янкеля, але кожны глядзіць сваёй гаспадаркі і як найлепей стараецца яе палепшыць, каб пасьля яго сьмерці добра было б дзеткам.

Маладзёж таксама не гультуе і ня ходзіць, дзе не патрэбна, а ўсё разам працуюць пры сваіх бацьках, а як прыйдзе сьвяты дзень, то ўсе зьбіраюцца і слухаюць, як я чытаю "Нашу Ніву".

**Франук С-ч**
**"НН", 6 кастрычніка 1911 г.**

## КОШТЫ

**на платныя прыватныя абвесткі** (для прыватных асобаў, на старонку 12):



— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.
— аформленая абвестка — 71 руб. за кв.см.
— аформленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, рэдакцыя газэты "Наша Ніва", Менск, вул. Калектарная 20-а, п. 2-а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белбізнэсбанк" Менску, код 763.

**На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары "Для пісьмовых паведамленьняў" запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: "За рэклямныя паслугі".**

# Экскурсія ў няісны музэй

Сяргей Харэўскі

Праходзьце, праходзьце, во ў гэтыя весьнічкі. Думалі, ведаеце, зрабіць жалезныя якія, але пакінулі гэтыя. Як бярэшся, дык заўсёды цёплыя. Бэз? Ой, ня ведаю... Кажуць, яму больш за паўсотні гадоў. Нібы Вітольд Бялыніцкі садзіў. Ён любіў пісаць бэз. А сад... Яблыні гэтыя, пэўна, яшчэ даваенныя. Вось па гэтай сьцяжыне — проста да тае габрэйскае "Ямы". Сюдою *туды* ня ходзяць. Ходзяць *адтуль*. А гэта — тыя самыя скульптуры, што стаялі на Палацы Прафсаюзаў. А гэта — з Прывакзальных вежаў. Так, іх тут і выраблялі. Гэта працы Сяргея Адашкевіча. Цяпер іх замянілі на больш трывалыя копіі, а арыгіналы — тут. А гэта — працы Акіма Курачкіна. Не ўсьміхайцеся. Такія стаялі калісь па ўсёй Беларусі. Во гэта Маркс, а гэта — помнік савецкім салдатам з Паставаў... Не! Гэта са Слоніму, а гэты — з Паставаў, ці з Полацку... Ім усім у гэтым садзе добра. Во як гэтаму Дуніну-Марцінкевічу на лаве. Гэта Шатэрнік зрабіў. І Колас таксама ягоны. Колас тут сам бываў часта. Яго партрэт тут пісаў Зянон Паўлоўскі. І яны разам зь Бялыніцкім-Бірулем тут утрох, бывала, бралі чарку. Ну дык праходзьце ў дом, праходзьце... Вось налева — мэмарыяльная майстэрня скульптара Адашкевіча. Ён тут працаваў ад 48-га да 2000 г. Гэта маршал Жукаў. Яго расфарбаваў сам Адашкевіч. Гэтак пажартаваў, калі яму адлучылі сьвятло й ацяпленьне. А гэта колішнія беларускія грошы, на якіх выяўленыя ягоныя скульптуры: Мастацкі музэй, вакзал, прафсаюзны палац. Гэта — баян Адашкевіча. Ён добра на ім граў. Бывала, па вечарох зьбіраліся суседзі-мастакі, падпявалі яму. А гэта — ягоны Багушэвіч, Скарына, Каліноўскі. Як прайшоў рэфэрэндум, дык заказчыкі адмовіліся забіраць. Ну, дык ім самае месца тут, дзе й былі створаныя. Вось мапа ўсяго Татарскага перадмесьця й Замкавай вуліцы, створаная самім скульптарам у 1950-м. І рознымі колерамі пазначана, што тут нішчылі з году ў год. Бадай, іншага такога дакумэнту няма нідзе.

Астатнія майстэрні вырашылі не пэрсаніфікаваць, бо тут прайшлі адно за адным пакаленьні й няма як аддаць некаму перавагу. Вось у гэтым пакоі працаваў Зянон Паўлоўскі, тут ён і памёр. Пасьля тут працавалі іншыя мастакі. А тую майстэрню дзялілі Марачкін з Маркаўцом. А тут працаваў сам Яўген Кулік.

Гэтая экспазыцыя прадстаўляе нам творы мастакоў Заходняе Беларусі міжваеннага часу, якія тут зьберагаліся й рэстаўраваліся — Драздовіча, Сергіевіча, Сеўрука. Іх тут перахоўвалі й паднаўлялі. Як і гэтае разьбярства часоў барока. А гэта — покуць абразоў, што пазьбіралі мастакі са зруйнаваных сьвятыняў у 70—80-я.

А гэта сапраўды цікавая рэч. Раяль XIX ст., нямецкае работы, карэльская бяроза, слановая костка. На гэтым раялі акампаніявалі Александроўскай і Бабію... Яны былі тут нярэдкімі гасьцямі. Вось іхныя партрэты, напісаныя тут: Ларыса Пампееўна, Зінові Восіпавіч... А гэты прапіл на раяльнай паліроўцы зрабіў мастацтвазнаўца Яўген Шунейка. Ён пілаваў на гэтым раялі палкі для транспарантаў на першыя апазыцыйныя мітынгі. А вось і тыя транспаранты. Іх тут цэлая калекцыя, разам з плякатамі й харугвамі, што выраблялíся таксама тут, ад канца 80-х. Мастацтвазнаўца Міхась Раманюк разам з Шунейкам першымі прыдумалі калекцыянаваць гэтае мастацтва. Насамрэч, гэтую агітацыю стваралі ў гэтых сьценах выдатныя мастакі: Крукоўскі, Купава, Марачкін... Усё тут. Праўда, *агітацыя* — не зусім тое слова. Гэта была прапаганда *беларушчыны* ў выглядзе мітынговага рэквізыту. Раней трымалі гэта па хатах, але, як бачыце, маштаб зусім не кватэрны.

А гэты стэнд распавядае пра іншых гасьцей мастакоў. Вось пра філёлягаў, літаратуразнаўцаў і філёзафаў: Сьцяпан Александровіч, Фёдар Янкоўскі, Леў Мірачыцкі, Уладзімер Конан, Аляксей Каўка. Здымкі, на якіх мы бачым іх на розных вечарынах у гэтых сьценах, іхныя кнігі з аўтографамі мастакам-гаспадарам, фрагмэнты дзёньнікаў. Мастацтвазнаўцы тут былі Міхась Раманюк ды Сакалоў-Кубай. Літаратары Генадзь Тумас, Алесь Разанаў, Уладзімер Арлоў... Ну, літаратараў тут багата, доўга пералічаць, паглядзіце самі. А вось фатаздымкі, зробленыя тут падчас гасьцяваньня старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. А вось і Галіна Русак. А вось чэскі беларусіст Вацлаў Жыдліцкі, а вось — дачка Фэрдынанда Рушчыца, Барбара, і малюнак яе славутага бацькі.

Што да музыкаў і танцораў, я памаўчу, глядзіце самі. Ад "Песьняроў" з "Харошкамі" да цяперашніх бардаў і рокераў. Касэты, плякаты, гітары. А! Гэта й насамрэч вартая штука. Гэты прайгравальнік прынёс Алесь Марачкін адмыслова, каб на вечарыне памяці Забэйды-Суміцкага паслухаць грамзапісы зь ягонымі сьпевамі. Пачакайце, зараз пастаўлю... Паслухаем. А можам і паглядзець. Вось тут — пакой для відэапрагляду. Ну, гэта тут аматарскіх шмат стужак. Маркавец здымаў, Шатэрнік, амэрыканскія беларусы. Вось здымкі розных кампаніяў 25 сакавіка 2000 г., як тут ладзілі пэрформанс Разанаў з Маркаўцом. А вось унікальныя відэастужкі з архіваў КГБ. А гэта цэлы фільм Уладзімера Коласа "Дамова з Гітлерам". Памятаеце, там мастак Задорын прыводзіць у гэтыя майстэрні, да Сяргея Малішэўскага, галяндзкага галерэйшчыка. Ну, дык гэта ўсё тут было.... Не стаміліся? То пройдзем яшчэ ў адну залю. Тут прадстаўленыя мастацкія творы, на якіх выяўлены гэты дом альбо ягонае навакольле. Вось тут творы Яўгена Ціхановіча і ягонага сына Генрыха, некалькі рэчаў, напісаных Бялыніцкім-Бірулем, малюнкі Яўгена Куліка, эцюд Адольфа Гугеля, 50-х яшчэ гадоў, "Выгляд з акна", што напісала Раіса Кудрэвіч, і акварэлі Ткачонка, Шнарэвіча, Апіёка. Вось гэта — творы Красоўскага, тут — Сулкоўскі. Гэта малюнкі іхных дзяцей, а гэта іхных вучняў... Усе перабывалі тут. Здаецца, зболышага ўсё. Хадземце. Так, мастакі сюды ходзяць. Хто тут працаваў, дык маюць уласныя ключы. Гэта ж усё яны й стварылі. Паціху, вось сюды... і направа. Бярыце, бэз, бярыце. Яго чым болей ломіш, дык ён гусьцейшы, пышнейшы пасьля расьце. Прыходзьце часьцей. У нас вечарыны ладзяцца, як калісь.

АБ'ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ

RR

РАДЫЁ РАЦЫЯ

КАРОТКІЯ ХВАЛІ 49м
22:00-24:00 1080 кГц
НА СЯРЭДНІХ ХВАЛЯХ 490м
08:00-12:00 612 кГц

ЧАС БЕЛАРУСКІ!

WWW.RACYJA.PL

220102, Менск, а/с 144

ГАВОРЫЦЬ ВІЛЬНЯ



Міжнародны беларускі радыёпорт "Балтыйскія Хвалі"

У дыяпазоне сярэдніх хваляў, 612 kHz, 490 м

Штодня зь сямі раніцы да паўночы:

Радыё Свабода
Радыё Рацыя
Балтыйскія Хвалі
Палёнія

ЖАДАЕМ ВАМ ПРЫЕМНАГА СЛУХАНЬНЯ

# Oh, patria mia!..

## агляд музычнага жыцьця

**У Опэры пазаўчора давалі "Аіду" ў гонар 20-годзьдзя творчай дзейнасьці народнай артысткі Беларусі Наталі Рудневай. Прабіцца ў тэатар было немагчыма.**

Цёплы, крыху са сьлязой, прыгожа афарбаваны голас спн.Наталі як найлепей пасуе да опэры. Аднак яна не забываецца і пра камэрную музыку, выконвае скарбы сусьветнай лірыкі, сольныя партыі ў араторыях і кантатах...

Дасканала засьпявала яна й на сваім юбілеі. Роля Амнэрыс у "Аідзе", відаць, найлепшая ў ейным рэпэртуары. Ейнымі партнэрамі былі народная артыстка Беларусі Тамара Глаголева (родам з Барысава) — знакамітая Аіда, малады тэнар, выпускнік Кіеўскай кансэрваторыі Ўладзімер Раеўскі (родам з Маладэчна) — дасканалы Радамэс, народны артыст СССР Аркадзь Саўчанка (зь Віцебску) — непараўнаны Аманасра. У трэцяй і чацьвертай дзеі спэктакль набраў такую вышыню, што яго ня сорамна было б паказваць на лепшых сцэнах сьвету. Калі раздаўся жаласны голас габою, і Тамара Глаголева засьпявала: "*Oh, patria mia, mai più, mai più ti rivedrò...*" ("О, край родны, ужо ня ўбачу болей я цябе..."), — многія ў залі пачалі плакаць, нібы слухаючы Палянэз Агінскага.



**Амнэрыс у "Аідзе" — Наталя Руднева**

**А філярманічны сэзон разгортваецца павольна. Сілы Дзяржаўнага сымфанічнага аркестру кінутыя на падрыхтоўку да замежных гастроляў — на пачатку кастрычніка стоасабовы беларускі музычны дэсант высадзіцца ў Ірляндыі, на Ўэксфардзскім фэстывалі.**

Аднак за цяжкай падрыхтоўкай аркестар не забываецца пра абавязкі перад менскаю публікай. 25 верасьня ў Філярмоніі адбыўся сымфанічны канцэрт з удзелам ангельскай піяністкі Янь Чунь Парк. Дырыгаваў Андрэй Галанаў, галоўны дырыжор Растоўскае філярмоніі, які ў 1992 г. быў першым выпускніком аддзяленьня опэрна-сымфанічнага дырыгаваньня нашай Акадэміі музыкі. Пасьля таленавіты магілёвец працаваў у Беларускай опэры як асыстэнт Анісімава, пасьпяхова выступаў з сымфанічным і камэрным аркестрамі. У 98-м ён удзельнічаў у творчым конкурсе на замяшчэньне пасады галоўнага дырыжора Сымфанічнага аркестру. Аднак у Міністэрстве культуры яго, відаць, усур'ёз не ўспрымалі.

Таму Галанаў адгукнуўся на запрашэньне з Растова. Тым больш, што дырэктар тамтэйшага музычнага тэатру — народны артыст Беларусі Ўладзімер Экнадыёсаў, які быў адзіным выканаўцам партыі Дубатоўка ў опэры Ў.Солтана "Дзікае паляваньне караля Стаха" і загалоўнай партыі ў опэры Ж.Афэнбаха "Казкі Гофмана". Без Экнадыёсава гэтыя спэктаклі перасталі існаваць.

**Летась рэгіянальны Фонд абароны правоў творчае інтэлігенцыі ды Адміністрацыя Растоўскай вобласьці ўганаравалі Андрэя Галанава пачэсным тытулам Чалавека году. Таму ягонага выступу ў нашай Філярмоніі чакалі з асаблівай цікавасьцю. Мяне ён цалкам расчараваў.** "Няскончаная" сымфонія Шубэрта была выкананая аляпавата і безгустоўна, з агромністай колькасьцю дырыжорскіх недакладнасьцяў. Крыху лепей прагучала *Andante Cantabile* Чайкоўскага і новы твор ангельскага кампазытара Джона Мэткалфа "Танцы забытых мясьцінаў". Гэты твор, напісаны ў 1998 г., сьведчыць, што ангельцы сёньня пішуць музыку простую, мяккую, мэлядыйную, з адчувальным прысмакам экалягізму (Джон Мэткалф захапляецца садоўніцтвам). Прыканцы Янь Чунь Парк — мініятурная, як калібры, апранутая ў стылі "экстрэмал" — зрабіла няўдалую спробу **выканаць Пяты ("Імпэратарскі")** канцэрт Бэтховэна. Яна ня здолела нават дайграць твор да канца, аднак гэта яе не зьбянтэжыла. За кулісамі, яна з усьмешкай абвясьціла журналістам, што вельмі задаволеная сваім выступам, што рояль у Філярмоніі стары, а акустыка — дрэнная, што ў залі халодна (апошняе — чыстая праўда), што менская публіка — сардэчная і ветлівая, а Галанаў — геніяльны дырыжор, таму яна абавязкова зайграе зь ім яшчэ.

Юлія Андрэева

# Адзінокі птах

**У Філярмоніі пад эгідай тэатру "Зьніч" адбылася прэм'ера манаопэры Алега Залётнева "Адзінокі птах". Пастаноўку ажыцьцявіла Галіна Дзягілева, яна ж была аўтаркай лібрэта.**

У спэктаклі ўдзельнічаў Дзяржаўны акадэмічны сымфанічны аркестар Беларусі пад кіраўніцтвам Пётры Вандзілоўскага і хор музычнай капэлі "Санорус". Упершыню опэра мусіла быць выкананая 19 студзеня, у гонар 20-годзьдзя тэатру "Зьніч", але прэм'ерны паказ быў скасаваны літаральна ў дзень спэктаклю і перанесены на лета. Загадкава зьмяніўся й галоўны выканаўца: замест Віктара Скарабагатава, з разьлікам на якога пісаўся "Адзінокі птах", у ролі паэта апынуўся Міхаіл Жылюк — саліст Беларускай Опэры, заслужаны артыст Беларусі. Спэктаклю гэта не зашкодзіла: выразны і мужны, дасканала апрацаваны голас сьпевака выратаваў зусім ня опэрную музыку А.Залётнева, якому значна лепей удаліся харавыя фрагмэнты. Наагул, атрымалася ня опэра, а кантата ці нават вакальны цыкль з хорам. Падмацоўвае гэтае ўражаньне й лібрэта зь вершаў Міцкевіча. Нанізаныя на адну нітку, яны разам не ствараюць ніякай тэатральнай дзеі, ніякага руху, ніякай драматургіі. Вершы, дарэчы, гучаць у перакладах Рыгора Барадуліна, пра што ў праграмцы ня згадваецца.

Затое там пазначана, што "у аснову сюжэту пакладзены вобраз, які навявае апошні дзень жыцьця паэта ў Стамбуле 26 лістапада 1855 г." Паэт сядзіць пад праваслаўным абразом ды згадвае вершы, напісаныя 20 ці нават 30 год таму. Наракае на адзіноту, ад якой пакутаваў у юнацтве ў Коўне і ў першы эміграцкі год у Парыжы, сумуе па радзіме, бацьках, каханай дзяўчыне. А потым раптоўна хапаецца за сэрца і маляўніча валіцца на падлогу. Нібыта аўтарка пастаноўкі ня ведае, што Міцкевіч быў каталіком і памёр ад халеры і што ў апошні дзень жыцьця ён курчыўся ад болю ў ложку.

Дый сэнтымэнтальнай тузе па радзіме не было месца ў паэтавым



сэрцы. Міцкевіч любіў Літву палка і фанатычна і ў Стамбул у часе Крымскае вайны прыехаў, каб фармаваць палкі з баўгараў ды валахаў дзеля барацьбы з Расеяй. Паэт спадзяваўся, што перамога Турэччыны дапаможа аднавіць незалежнасьць Літвы. Словам, рэальны Міцкевіч быў далёкі ад сэнтымэнтальнага вобразу, намаляванага ў "Адзінокім птаху". Відаць, аўтары да гэтага і імкнуліся.

Ю.А.

### БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Ouverture

У 2101 г. у адным толькі Менску будзе дзясятак буйных канцэртных заляў. Канцэрты будуць адбывацца таксама ў касьцёлах: Чырвоным, Катэдральным, Сьвятой Тройцы і ў новых, пабудаваных у XXI ст., але ў касьцёлах будуць выконваць усё больш духоўную, рэлігійную музыку. Пачуць творы Скр'ябіна альбо Шастаковіча на Залатой Горцы будзе немагчыма. На тое будуць шматлікія *FM*-станцыі ды сьвецкія залі. Кружэлкі з творамі будуць прадавацца ва ўсіх буйных кнігарнях-дыскарнях: кнігі і дыскі будуць прадавацца ў тых самых крамах.

Дзякуючы рашучаму прагрэсу транспартных сродкаў, не праблемаю будзе музыку з Амстэрдаму або Каіру прыехаць у Менск ці Нясьвіж на адзін вечар, выступіць і ў гэты ж дзень вярнуцца дадому. Як і цяпер, жывыя выступы будуць надзвычай папулярныя.

Хоры Рахманінава, Танеева, Беразоўскага і многіх іншых кампазытараў будуць гучаць у праваслаўных саборах. Праваслаўныя пад той час дапусьцяць выкарыстаньне музычных інструмэнтаў на царкоўнай службе, і ў царкве можна будзе пачуць скрыпку, габой, арган. А ў пратэстанцкіх храмах нярэдка можна будзе пачуць ударную ўстаноўку, сынтэзатар ды бас-гітару.

У аб'яднанай Эўропе моладзь з усіх краёў почасту будзе вучыцца ў іншых краінах. У Беларусі на базе колішніх вучэльняў працаваць муць Кансэрваторыі й Акадэміі музыкі, адчыняцца прыватныя школкі. Ня дзівам будзе ўбачыць гішпанскага студэнта на ўроку альтыста Абрама Міхельсона ў Бабруйску альбо юную флейтыстку Алесю Сьпірыдовіч на занятках фізкультуры парыскае Акадэміі музыкі. Людзі будуць занятыя пераважна ў сфэрах абслугоўваньня й культуры, таму колькасьць мастакоў, пісьменьнікаў, музыкаў за стагодзьдзе значна павялічыцца.

Рэй у Беларусі будзе весьці піяністычная школа, на высокім узроўні будзе харавая й фальклёрная музыка. Асаблівую папулярнасьць набудзе новая манера выканальніцтва — адлюстроўваньне стылю вялікіх музыкаў мінуўшчыны. Піяністы "пад Кемпфа", "пад Сафраніцкага", "пад Аргерыч", скрыпачы "пад Мутэр", "пад Ойстраха", цымбалісты "пад Лявончыка" будуць даваць цэлыя канцэрты, удаючы выкананьні легендарных музыкаў і падбіраючы рэпэртуар, уласцівы таму ці іншаму пратапыпу.

Музыка, паэзія, выяўленчае й драматычнае мастацтвы яшчэ шчыльней стануць узаемадзейнічаць ды ўплываць адно на аднаго. Гэта будзе час сынтэзу культураў, жанраў, галінаў мастацтва.

Віталь Стахіевіч

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведаць муць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

Адам Глёбус

# Блізкія

### 1962. Баба й сьлівы

Зь дзедам Бронікам зьбіраю ў вядро жоўтыя сьлівы. Які водар! Баба Ядзя распальвае керагаз, варыцьмуць мядова-залацістае сочыва.

### 1975. Дзед Уладзімер і мяхі

Капаю зь дзедам Уладзімерам лёх. Сонца. Сьпёка. Пот у вочы цячэ. Дзед махае рыдлёўкай уровень са мною і яшчэ распявядае пра тое, як працаваў грузчыкам на чыгунцы...

Усе думаюць, што грузчык мусібыць вялікім. Не абавязкова. Грузчык можа быць і малы. Галоўнае, каб спрыт быў. Каб ведаў, як закінуць мех на плечы, як несьці, як скінуць. Можаш быць вялікім, як гара, а няправільна падымеш — і парвешся...

Пасьля абеду я адмаўляюся капаць лёх, дзед дакопвае безь мяне. Мусіць і рыдлёўку, як тыя мяхі, трэба ведаць, як браць.

### 1993. Рудкевіч і басэйн

Паплаваць я заўсёды любіў і пакінуў наведваць басэйн толькі таму, што хлёрку ў ваду сыплюць без усялякае меры. Скура перасыхае, ніякія крэмы не дапамагаюць. Вочы чырванеюць і баляць. Ну іх да д'ябла, нашыя менскія басэйны. Цяпер я плаваю выключна ў віленскіх басэйнава-блакітных водах. А пра менскія згадваю з сумам і сорамам. Апошні раз мне зрабілася сорамна, калі пабачыў сваю былую аднаклясьніцу Тацяну Рудкевіч у водах Дому афіцэраў. Яе трымаў на руках нейкі лысы чараваты дзед. У вадзе й дзед зможа трымаць на руках ня тое што адну, а нават і дзьвюх кабетаў. Танька, зь якой я праседзеў за адной партаю цэлы год, вядома ж, мяне не пазнала, а мне стала крыўдна і за яе, і за хлёрку, і за сябе.

# Ня варта паэту перакладаць прозу

*Гутарка зь Нілам Гілевічам напярэдадні ягонага 70-годзьдзя*

**“НН”: Што ў Вашым жыцьці Вы рабілі няправільна?**

**Ніл Гілевіч:** Ня ведаю, які аспэкт майго жыцьця Вас цікавіць: побытавы, творчы, грамадзка-палітычны? Калі побытавы, то вельмі шкадую, што, вечна апантаны клопатамі творчымі й грамадзкімі, мала надаваў увагі родным і блізкім, асабліва маме й сваёй сям'і. Хоць і спакушае д'ябал да апраўданьня — мауляў: “затое, паглядзі, колькі напрацаваў, колькі пасьпеў зрабіць!”. Але застаўшыся ў думках сам-насам, мушу з болем і горыччу казаць: “Якая непапраўная, проста трагічная памылка!..” Гэтаксама шкадую, што не знаходзіў часу пабыць госьцем лесу ці гаю, поля ці лугу, возера ці рэчкі. Як рэдка выпадалі такія шчасьлівыя хвіліны! Але пра ўсё гэта я дастаткова поўна, мне здаецца, выспавядаўся ў вершах, паэмах. Для таго, хто дасьць сабе клопат прачытаць іх уважліва, адкрыюцца ўсе мае памылкі й грахі гэтага кшталту.

У творчым аспэкце... Ну, напрыклад, наўрад ці было правільным мне, паэту, займацца перакладам твораў прозы. “Перавярнуў” на беларускую мову таўшчэзны раман, дзьве аповесьці, некалькі дзясяткаў апавяданьняў і казак, а мог бы спакойна гэтага не рабіць, бо выдаткі працы й часу неапраўданыя. Іншая рэч — пераствареньне паэзіі: каля чатырохсот славянскіх паэтаў загаварылі пад маім пяром па-беларуску — і я пра тое не шкадую, тут ішло творчае спаборніцтва, па сутнасьці, вершы іншых я рабіў сваімі і таму ад уласнай паэзіі іх не адлучаю.

Што датычыць маёй пазыцыі ў грамадзка-палітычным жыцьці краіны — ня думаю, што мне трэба ў нечым дужа каяцца й крычаць “даруйце!”. У ідэалы, на якіх быў выхаваны зь дзяцінства, верыў шчыра, душою не крывіў і не спэкуляваў. Тым больш, што наперадзе ўсіх іншых ідэалаў праз усё сьвядомае жыцьцё бачылася мне Беларусь — шчасьлівая й велічная ў свабоднай стыхіі сваёй мовы, прыгожая ў акрасах сваёй культуры, сьвятая ў пакутах сваёй гістарычнай памяці. Ёй служыў, пра яе думаў — якую б ілюзорную падсьветку маім думам не даваў час.

“Няправільнага” было зроблена нямала. Але аднаго памылковага кроку, асабліва небясьпечнага для людзей творчых прафэсіяў, я не зрабіў: ня стаў “сакрэтным супрацоўнікам”, не пісаў і не рабіў вусных даносаў, паклёпніцкіх заяваў — ні ў КДБ, ні ў ЦК, ні ў абкам, ні ў гаркам і ні ў якія іншыя “камы”. Дорага мне каштавала гэтая незалежнасьць уласнай волі, гэтая неабцяражаранасьць душы ганебным грузам, але затое глядзеў і гляджу людзям у вочы спакойна.

**“НН”: Тады іншае пытаньне. А што ў Вашым жыцьці вы рабілі слушна?**

**Н.Г.:** Слушна (чым і ганаруся) усё жыцьцё супрацьстаяў трунарам і далакопам Беларусі, бараніў ад зьнявагі, зьдзеку і ўдушэньня нашу мову, змагаўся за яе права панаваць на зямлі, дзе ёй было суджана ў глыбіні вякоў прарасьці і, церпячы то лютыя маразы, то страшныя засухі, выжыць.

Слушна ўзяўся 13 гадоў таму за стварэньне Таварыства Беларускай Мовы, роля й значэньне якога ў нацыянальным адраджэньні Беларусі яшчэ будзе ацэненая. Калі б не ТБМ і ягоны першы старшыня, у Вярхоўным Савеце Беларусі XII скліканьня не было б апазыцыі БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком. Помню, як ужо надвячоркам да мяне зьвярнуліся разгубленыя сябры Сойму БНФ: “Ратуйце становішча! Сёньня апошні дзень рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, а ЦВК ня хоча рэгістраваць нашых адзінаццаць кандыдатураў, вылучаных гарадзкімі й раённымі суполкамі ТБМ!” Я зьвязаўся па “вяртушцы” са старшынём ЦВК і сказаў: “Не нарывайцеся на вялікі скандал. ТБМ мае права вылучаць кандыдатаў, гэта арганізацыя створаная са згоды ЦК КПБ і юрыдычна зацьверджаная Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету. Хто Вам даў права адмяўляць у рэгістрацыі?” — “Добра, зараз зарэгіструем”, — прарыпеў у адказ голас. І не бяда, што гэты факт ня ўзгадваюць у сваіх успамінах тыя ж былыя дэпутаты й актывісты БНФ: ён застаецца фактам.

Слушна дабіваўся прыняцьця “Закону аб мовах у БССР”, быў намесьнікам старшыні Камісіі па падрыхтоўцы гэтага Закону й кіраўніком рабочай групы па яго выпрацоўцы. Закон быў прыняты 26 студзеня 1990 г., і беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у Беларусі (на жаль, усяго на пяць гадоў).

Слушна, як старшыня сталай камісіі ВС па адукацыі, культуры й захаваньні гістарычнай спадчыны, рабіў на сэсіях даклады аб законапраектах, надзвычай важных для адраджэньня нацыянальнай школы, культуры й гістарычнай памяці народу. У прыватнасьці, аб Сьцягу й Гербе Рэспублікі Беларусі і аб назве сталіцы (дабіваўся, каб вярнулі “Менск”). Калі антыдэмакратычная й антыбеларуская бальшыня Вярхоўнага Савету апамяталася і ўзяла курс на рэванш, дэпутат ад вэтэранаў М.Качан зьвярнуўся да мяне зь дзіўнай просьбай: “Таварыш Гілевіч, толькі дзякуючы вам былі прынятыя гэтыя сьцяг і герб. Магія вашых прамоваў і ваш аўтарытэт зрабілі справу: мы паверылі вам і падтрымалі вас. Цяпер мы вырашылі паставіць пытаньне аб пераглядзе закону аб сьцягу й гербе і просім вас: не выступайце супраць”. Паабяцаць такое я, зразумела, ня мог, але тады “пытаньне аб пераглядзе” і ня ставілася. Я наўмысна падкрэсьліў словы “толькі дзякуючы вам”, бо нядаўна, 19 верасьня, адзначалася дзясятая гадавіна прыняцьця Закону аб Сьцягу й Гербе, дык імя дакладчыка па гэтых пытаньнях нават не згадалі. Знаёмае, і я б сказаў, фэнамэнальнае беларускае самаедзтва!

**“НН”: Як, па-Вашаму, будзе разьвівацца беларускі правапіс?**

**Н.Г.:** Правапіс беларускае мовы — толькі адна з праблемаў, якія павінны хваляваць усіх неабыякавых да лёсу роднага слова грамадзянаў. Ёсьць і іншыя праблемы, усьведамленьне якіх нараджае ў душы вялікую трывогу. Праблема сынтаксысу: сапраўдны беларускі сынтаксыс і ў вуснай, і ў пісьмовай форме мы амаль забыліся, і самі гэтага не заўважаем. А ён жа — душа мовы! Як сказ ці фраза гучыць — ці па-беларуску, ці беларуская інтанацыя, мэлёдыя, музыка сказу — залежыць у першую чаргу ад сынтаксысу. Затым — праблема лексычная: у нашу мову па неабачлівасьці, а часьцей — па непісьменнасьці й наўмысна, заганяецца процьма небеларускіх словаў, і гэтая агідная мяшанка выдаецца за беларускую мову. Нарэшце, праблема артаэпіі: шмат хто беларускія словы вымаўляе не пабеларуску, на расейскі кшталт. Без уліку гэтых праблемаў замена аднаго правапісу на другі будзе мераю недастатковаю для таго, каб беларуская літаратурная мова сталася сапраўды беларускай. Трэба вяртацца да вытокаў, аднаўляць беларускі сынтаксыс і беларускую лексыку, у тым ліку тэрміналёгію. Гэта, паўтараю, мусіць быць зробленае незалежна ад таго, які ўсталюецца правапіс.

Дый з апошнім пытаньне больш складанае, чым здаецца. Трэба адрэгуляваць многія дзясяткі момантаў правапісу, а ня тры-чатыры-пяць, правесьці вялікую і крапатлівую навуковую працу, шырокае абмеркаваньне з удзелам спэцыялістаў — мовазнаўцаў, пісьменьнікаў, журналістаў, настаўнікаў. Але калі мы не даб'емся аднаўленьня Закону аб мовах 1990 г., нашыя спрэчкі пра правапіс будуць спрэчкамі наіўных і сьмешных дзівакоў. Трэба ўсе сілы мабілізаваць на выратаваньне мовы, на наданьне ёй належных грамадзянскіх правоў, на яе пашырэньне ў грамадзкім ужытку. Але хіба гэта можна рабіць ва ўмовах дыктатуры, у краіне, дзе татальны страх паралізуе жывую душу чалавечую? Значыць... а тое самае і значыць, пра што вы падумалі.

**Запісала Сьвятлана Курс**




**Справа налева: балетмайстар Валянцін Елізар'еў, паэт Ніл Гілевіч, прэм'ер Вячаслаў Кебіч, міністар Анатоль Бутэвіч і рэстаўратар Мірскага замку Дзьмітры Бубноўскі.**

## ПРА ЧАС І КРАІНУ

# Эпоха Лу

**Тое, што адбылося 9 верасьня, можна назваць па-рознаму: чарговая перамога тутэйшага кансэрватызму над нетутэйшым мадэрнізмам або — інфантылізму над прагматызмам і г.д. Але, як ні назаві, нельга абысьці ўвагай галоўнага каталізатара падзеяў — Лукашэнку. Пераходны пэрыяд, які зьвязвалі зь ягонай пэрсонай, можа стаць самастойнай эпохай у найноўшай беларускай гісторыі. Лукашэнка стварыў сыстэму панаваньня, якая ня можа зьмяніцца дэмакратычным шляхам. Беларусы — народ мірны, законапаслухмяны, і рэвалюцыяў тут не прадбачыцца, а што да войнаў, дык наш "генэралісімус" яшчэ не такі вар'ят, каб нападаць на суседзяў, губляючы "сінявокую" сініцу дзеля мройнага геапалітычнага журава. Таму, пры пэўнай абачлівасьці, ягонае кіраваньне можа зацягнуцца. Правіў жа Франка 40 гадоў і зусім ня ў Афрыцы. Адсталі пры ім гішпанцы ў эканоміцы, але культура разьвівалася спраўна...**

Можна прыгадаць і Гіначэта, і Кадафі, і Кастра, але наш дыктатар мае свае нацыянальныя адметнасьці і гістарычныя задачы. Доўгі час здавалася, што прага ўлады і сындром пакрыўджанага савецкага імпэрца ў ягоным аблічны зьліты ў адно, але прыход Пуціна высьветліў, што Лукашэнка зьбіраўся ня столькі далучацца да Расеі, колькі далучаць яе да сябе, і калі крамлёўскія пэрспэктывы зачыніліся, ён пачаў тармазіць уцягваньне Беларусі ў Расею. Міжволі Лукашэнка вымушаны адасабляць і захоўваць краіну, хай і ў непрэзэнтабельным, "калгасным" выглядзе. Ягоная гістарычная роля зводзіцца да стварэньня штучных абставінаў для высьпяваньня беларускай нацыі. Лепшыя ўмовы, чым ізаляваная аўтарытарная дзяржава лукашэнкаўскага тыпу, для гартаваньня нацыянальных ідэяў і грамадзкай салідарнасьці ўявіць цяжка.

У бліжэйшы час мы будзем сьведкамі сур'ёзных "наездаў" на першагабеларускага з боку Масквы, якія пакажуць, наколькі Лукашэнка можа "трымаць удар". Сьпісваць яго праз год-два, як робяць амэрыканскія ды расейскія аналітыкі, думаю, ня варта. Вялікая частка нашых суграмадзянаў, асабліва немаладых і бедных, не адступяцца ад свайго лідэра бадай ніколі. Лукашэнка для іх свой мэнтальна і духоўна, ён здольны надоўга забясьпечыць традыцыйныя патрэбы беларуса — "чарку", "скварку" і "абы не было вайны". Іншы ягоны ідэйны хаўрусьнік — "праваслаўна-савецкая" інтэлігенцыя, якая разумее і сумнеўнасьць эканамічных пэрспэктываў, і палітычныя хібы рэжыму, і нават ягоную амаральнасьць, але падтрымлівае Лукашэнку, бо ён вядзе правільную "славянскую" лінію. Гэтыя людзі з вышэйшай адукацыяй на поўным сур'ёзе разважаюць пра хцівасьць жыдамасонства, пра "зачыстку" постсавецкай тэрыторыі ад расейцаў, пра сусьветную змову супраць праваслаўя, пра замбаваньне Захадам даверлівых славянаў і г.д. Для іх усе праявы беларускага нацыянальнага жыцьця, што выходзяць за межы Багдановіч-Купала-"Песьняры", ёсьць антырасейскімі падкопамі Захаду. Менавіта з гэтага кола прэзыдэнт рэкрутуе новыя кадры, многія зь якіх хутка губляюць ружовыя ідэалягічныя акуляры і працуюць хутчэй з-за страху, чым па пераканаўнях.

Рэзэрв першага-беларускага пакуль ня вычарпаны, ягоныя здольнасьці да палітычнага выжываньня па заслугах яшчэ не ацэненыя. Сёньня з-за моцнага нэгатыўнага іміджу "калхозьніка" і "хама" мы ня можам успрымаць яго аб'ектыўна, а імкненьне хутчэй праскочыць "эпоху Лу", робіць нас падобнымі на малых дзяцей, якія лічаць, што, каб стаць дарослымі, дастаткова надзець бацькаў брыль, запаліць ягоную цыгарэту і сувора нахмурыць бровы. Але гэтага мала. Трэба яшчэ стварыць свой уласны сьвет, больш трывалы і дасканалы за бацькаў, ці, прынамсі, навучыцца самастойна забляць на жыцьцё.

А "эпоха Лу" скончыцца тады, калі наш "бацька" перастане быць першым героем, калі асоба ягоная стане малацікавай як для прыхільнікаў, так і для апанэнтаў, калі мы зможам спакойна і абыякава сказаць: "А-а, гэта зноў той тэледзядзька... як ён змарнеў. Крутані лепш што-небудзь наша, свяжэйшае...".

Ці можна гэта прысьпешыць? Ці трэба гэта прысьпешваць?

Гадуй — сваё, мацуй — сваё... і час твой прыйдзе.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

# Краіна паламанага гадзіньніка

**11 верасьня сьвет зьмяніўся. Вось так, раптам і назаўсёды. Глябальна. І не спатрэбілася ніякіх рэвалюцыяў, каб сапраўдная рэвалюцыя адбылася ў нашай сьвядомасьці. Усяго адна *падзея*ператварыла наш вузкі, абмежаваны — у каго шклянкай "Крыжачку", а ў каго сёмай дысэртацыяй — сьвет у вялізны, пакуль незразумелы Сусьвет. Так пачалася будучыня...**

А колькі тыдняў таму я, ні да чаго больш не прыдатны, спаў. Упершыню за апошнія 20 дзён можна было проста спаць і ні аб чым ня думаць. Звычайная, пасьляэкзамэнацыйная кандыцыя: быццам *нічога* не зьмянілася, быццам і не было ўчорашняга паступленьня ў БДУ.

Першы дзень дарослага жыцьця прайшоў у прымітыўных пошуках якой-небудзь справы. Пасьля 24-гадзіннага карпеньня над ксёнжкамі было неяк у навіну пляваць у столь. Хоць і да гэтага я прызвычаіўся. Але адчуваньне, што нічога не зьмянілася, што ўсё па-ранейшаму, засталося.

А 30 жніўня ўручалі студэнцкія. Высокіх, прыгожых словаў нагаварылі сьвет, толькі рэальны смак новага жыцьця так і не прыйшоў.

Нешта адваротнае здарылася 1 верасьня: адчувалася, што нешта новае і страшнае насамрэч адбылося. Глыбачэзнае пачуцьцё адчужэньня, пачуцьцё, што гэта ўсё ўжо даўно не маё, проста перапоўніла ўсяго мяне. Звычайная школьная лінейка... і ня тое, каб я пачуваў настаўнікаў роўнымі, а шкаляроў няроўнымі... я ўвогуле не пачуваў. Мы ўсе стаялі і глядзелі на самапахаваньне. Зрэшты, як гэта ні жахліва, да такога хутка прызвычайваешся. І зноў нічога новага. Ні мінулага, ні будучага. "Распалася сувязь часоў"... каб распачалася...

**Яўген Буры, Барысаў**

Повілас Гечус

# Геалягічная экспэдыцыя ў Менск

**Пасьля таго як Саветы акупавалі Літву і зьліквідавалі Міністэрства замежных справаў, я застаўся беспрацоўным. У мяне былі прывезеныя з Паўднёвай Амэрыкі рэдкія карціны, скульптуры ды іншыя прадметы мастацтва, а таксама вялікая калекцыя каляровых птушыных пудзілаў з Бразіліі. Падахвочаныя маім сябрам, мастаком Адомасам Гальдзікасам, мой дом пачалі наведваць і іншыя мастакі, цікаўныя паглядзець, што я прывёз прыгожага й каштоўнага. Такім чынам я пазнаёміўся з мастакамі Ю.Мікенасам, Л.Стройлам, В.Кайрукшцісам, А.Гудавічусам*, Ё.Шылейкам ды іншымі. Ю.Мікенас, дырэктар Віленскай мастацкай акадэміі, набіраў выкладчыкаў. Ён прапанаваў мне стаць ягоным сакратаром. Мяне вабіла жаданьне бліжэй пазнаёміцца з мастакамі і іхным жыцьцём, таму я ахвотна згадзіўся. У Акадэміі я прабыў да позьняй восені 1940-га.**



Аднойчы, ідучы вуліцай Гедыміна, я нечакана спаткаў др.Чэславаса Пакуцкуса, свайго старога сябра, зь якім у студэнцкія гады ў Коўне пражыў у адной кватэры пару гадоў. Нашыя кантакты перарваліся, калі ён зьехаў вучыцца ў Нямеччыну, а я — у Францыю. Цяпер, сустрэўшыся праз столькі гадоў, мы пачалі распавядаць адзін аднаму, хто што перажыў за гэты час. Аказалася, што ён выкладаў ва Ўнівэрсытэце Вітаўта Вялікага геалёгію й палеанталёгію, а цяпер прызначаны начальнікам Літоўскай геалягічнай службы й шукае супрацоўнікаў. Даведаўшыся, што я працую ў Мастацкай Акадэміі, ён пачаў мяне ўгаворваць перайсьці да яго. "Кідай, — кажа, — тых багемных мастакоў. Пераходзь да мяне ў геалягічную службу, мне якраз патрэбны плянавік, будзеш маім намесьнікам, станеш атрымліваць удвая большы заробак. Калі мы маладымі ўжыліся, ужывемся і цяпер".

Я адчуў патрэбу дапамагчы сябру арганізаваць новую, патрэбную й карысную Літве ўстанову. Геалягічная служба месьцілася на праспэкце Гедыміна, непадалёк ад Лукіскага пляцу. Ейны навуковы пэрсанал складалі былыя прафэсары Віленскага ўнівэрсытэту, палякі Пасэндорфэр, Галіцкі, Галіцка, Акалевіч, Штукоўскіс. Зь літоўцаў там рабілі дзьве юныя геалягіні: Ядвіга Рымшайтэ і Бірутэ Салдукене. Загадчыкам аддзелу тапаграфіі быў палкоўнік С.Круввяліс, крэсьляры — Она Станкайтытэ і Ляонас Жамкальніс, кіраўнік канцылярыі — Лёнгінас Дрангаўскас, скарбнік — Сакалаўскас (адначасова і парторг). Было яшчэ некалькі службоўцаў, але іхных прозьвішчаў я ўжо ня памятаю. З навуковым пэрсаналам даводзілася кантактаваць мала, бо яны збольшага выяжджалі на правінцыю з рознымі заданьнямі, а вярнуўшыся, здавалі Пакуцкасу справаздачы аб сваіх дасьледаваньнях. Зь іншымі супрацоўнікамі размаўлялі па-сяброўску, пазьбягаючы палітычных актуаліяў.

Раней гадавыя бюджэты літоўскіх міністэрстваў і іншых установаў плянавалі бухгальтары гэтых установаў, а зацьвярджалі кабінэт міністраў і Сойм. У Савецкім Саюзе ж была адмысловая ўстанова — Дзяржплян. У першы год акупацыі, відаць, савецкія парадкі яшчэ ўвесьці не пасьпелі. Бюджэт геалягічнай службы меўся сплянаваць адмысловы чыноўнік — плянавік. Гэта была вельмі адказная справа, бо калі б сродкаў не хапіла, і кіраўніка, і плянавіка маглі б абвінаваціць у сабатажы й абвясьціць шкоднікамі. Каб пазьбегнуць магчымых памылак і непрыемнасьцяў, трэба было пазнаёміцца з практыкаю плянаваньня ў геалягічных упраўленьнях іншых рэспублік. Найбліжэйшым для нас было Беларускае геалягічнае ўпраўленьне. Таму пастанавілі адправіць мяне туды на практыку.

Сьнежаньскай ноччу я прыехаў у Менск. Увайшоўшы ў вакзал, я зьдзівіўся, пабачыўшы, што на мармуровай падлозе ляжаць калгасьнікі ў сярмягах і паршнях. Асьцярожна пераастаўляючы ногі паміж людзьмі, я азіраўся, мо дзе пабачу тэлефон. У Менску было чатыры гатэлі. На маё пытаньне паўсюль адказалі, што вольнага пакою ў іх няма. Трэ было чакаць раніцы на вакзале. У памяшканьні трэцяе клясы паводле нашай клясыфікацыі, а па-тамтэйшаму — "цьвёрдых лавак", пасажыры спалі, выцягнуўшыся на падлозе. У залі другой клясы, а па-іхнаму — "мяккіх лавак", ніхто ня мог спаць, вартаўнікі хадзілі туды-сюды і будзілі тых, хто задрэмле, кажучы, што тут спаць забаронена. Пасажыры маглі гуляць у шахматы, шашкі, чытаць альбо перагаворвацца. Мяне зьдзівіў кантраст: вонкавая раскоша памяшканьня — мармуровая падлога, ядвабныя фіранкі на вокнах — і жабрацкая вопратка пасажыраў. Нязвыклая начная бессань мяне станміла. Я ўзрадаваўся, калі нарэшце надышла раніца. Праз вялікую даўку я прабіўся ў аўтобус і неўзабаве апынуўся перад дзьвярыма Беларускага геалягічнага ўпраўленьня. Прадставіўшыся начальніку, я сказаў яму, што ўсю ноч праседзеў бяз сну на вакзале, бо ня мог атрымаць пакою ў гатэлі. Той адразу патэлефанаваў і даў адрас гатэлю, у якім для мяне быў зарэзэрваваны пакой. Паспаўшы колькі гадзінаў, я вярнуўся ва ўпраўленьне.

Яно месьцілася ў вялізарнай залі, якая расьцягнулася на ўсю даўжыню й шырыню будынку. У ёй працавалі некалькі дзясяткаў службоўцаў. Два тыдні тамтэйшы плянавік штодня паказваў і тлумачыў мне справаздачы аб навуковых досьледах беларускай геалягічнай службы. Багацьці беларускай зямлі былі амаль такія самыя, як і ў Літве: торф, гліна, пясок, крэйда. Таму мне нескладана было вывучаць тэхналёгію падрыхтоўкі бюджэту на прыкладзе Беларускага геалягічнага ўпраўленьня.

Мой кіраўнік вельмі цікавіўся сытуацыяй у Літве і распытваў мяне пра тамтэйшае жыцьцё. Паводле майго выгляду й вопраткі ён вырашыў, што я прыбыў з заможнага краю. Яму было цікава, ці ёсьць у Літве ў крамах абутак, вопратка, прадукты харчаваньня, якія на іх цэны і ці свабодна можна іх набыць. Пачуўшы, што ў крамах поўна тавараў і іх можна купляць свабодна, ён сказаў мне, што доўга так ня будзе, што хутка ў Літве стане гэтаксама, як цяпер у Беларусі. Пабачыўшы іхнае жыцьцё, я мусіў з сумам пагадзіцца.

У перапынку на абед большасьць службоўцаў пад'ядала за сваім сталом, так рабіў і мой кіраўнік. Ён сказаў, што ў іх ёсьць невялічкая чайная, дзе можна што-небудзь зьесьці й выпіць гарбаты. Аднойчы я зайшоў у тую чайную і быў зьдзіўлены ейнай беднасьцю. Я пачаў разглядацца, каб выбраць чаго чысьцейшага, бо тыя закускі, якія там былі, апэтыту не выклікалі, і выбраў сухія абаранкі. У шклянку з гарбатаю ўкінуў два кавалачкі цукру, але не было лыжачкі, каб яго памяшаць. Мне параілі скарыстацца нажом. Больш я ў тую чайную не хадзіў.

Адну маленькую непрыемнасьць давялося мне перажыць са сваім футрам. У адным з куткоў вялікай залі стаяў раскідзісты стоўп зь вешакамі для вопраткі, бо асобнага гардэробу не было. Там я вешаў сваё чорнае, падбітае тканінаю футра. Аднаго разу, ідучы міма, я ўбачыў на ім нібы белую нітку. Праходзячы крыху пазьней, я заўважыў, што тая нітка нібы рухаецца. Зацікавіўшыся, я падышоў бліжэй і пабачыў, што гэта чарада вошай. Я пачырванеў ад сораму: што пра мяне падумаюць супрацоўнікі, убачыўшы на маім футры вошы? Ад часу вяртаньня з Расеі ў 1918 г., у Літве я вошай ня бачыў ні разу. Я хацеў быў скінуць тыя вошы з футра, але мне было сорамна, бо службоўцы маглі гэта заўважыць. Давялося чакаць да канца працоўнага дня. Вярнуўшыся ў гатэль, я паклаў футра на стол і старанна выбраў адтуль паразытаў. З тае пары я футра пакідаў на сваім крэсьле.

Па сканчэньні працоўнага дня я палуднаваў у рэстарацыі свайго гатэлю. Гатэль лічыўся другім у Менску паводле якасьці. Пакой у мяне быў чысты, з ложкам, столікам, крэслам, графінам і шклянкаю для вады, каб мыцца. Тэлефону не было. Радыё — у калідоры, адно для ўсіх. Хоць, здавалася, тут не было нічога, на што можна было б пакваліцца, аднак дзяжурная па паверсе, калі я выходзіў, павінна была выпісаць даведку, што я нічога не выношу з пакою, і бяз гэтай даведкі нельга было выйсьці з гатэлю.

Рэстарацыя ў гатэлі была прасторная, даволі чыстая, ежа досыць разнастайная й смачная. Граў духавы аркестар. Абед складаўся з трох страваў. Падчас яго я выпіваў пару шклянак піва. Аднаго разу ў рэстарацыю прыйшла пад'есьці група маладых афіцэраў. Сеўшы вакол стала, яны замовілі шампанскага. Выпіўшы віно, пачалі есьці суп. Тут паклікалі афіцыянта, і ўсе папрасілі прынесьці "сто грамаў". Я пра такое ня чуў ніколі. Што б гэта магло быць? Той прынёс маленькія бутэлечкі з гарэлкаю, зь якіх наліў поўныя шклянкі. Дзіўна было, што тыя афіцэры елі й пілі, не здымаючы пальчатак. Да майго стала часта прысаджваліся па двое-трое прыежджых з правінцыі чыноўнікаў, і, бачачы, як афіцэры ядуць у пальчатках, зьедліва казалі: відаць, толькі што з Польшчы альбо з балтыйскіх краінаў прыбылі, там закупіліся, а цяпер выхваляюцца, бо ўпершыню надзелі скураныя пальчаткі. Зьдзіўляла, што я ня бачыў, каб у рэстарацыі елі жанчыны, і ня чуў, каб там размаўлялі па-беларуску.

Спачатку дзеля цікаўнасьці, а пасьля й каб пабавіцца, я колькі разоў заходзіў у найлепшую ў Менску гатэльную рэстарацыю. Яна сапраўды была вышэйшае клясы і лепш абсталяваная. Калі я ўпершыню пасьля абеду замовіў гарбаты, афіцыянтка (тут у рэстарацыі абслугоўваюць жанчыны) прынесла мне шклянку духмянага пітва. Выпіўшы, я папрасіў яшчэ. Даўно мне не траплялася такога смакоцьця. Я спытаўся, што гэта за гарбата. Аказалася, грузінская. На пытаньне, ці можна яе набыць, афіцыянтка адказала, што яна ёсьць ува ўсіх крамах. Але ў ніводнай краме грузінскай гарбаты ня толькі не было — прадаўшчыцы нават ня ведалі, што такая наагул бывае. Відаць, ёю маглі ласавацца толькі наведнікі найлепшага гатэлю.

Гаворачы пра крамы й ежу, трэба адзначыць, што ў тыя часы менскія крамы былі жабрацкія. У краме з вопраткаю дзіўна было бачыць прапахлыя даўніною і няўмела пашытыя жаночыя сукенкі, выбар быў вельмі слабы. У прадуктовых крамах бракавала мяса, рыбы зусім не было. У некаторых можна было набыць рыбныя кансэрвы ў бляшанках, дарагія і недаступныя простаму чалавеку. Нечакана ў адной пуставатай краме я пабачыў слоікі з марынаванымі баравікамі й вялікія бочкі з салёнымі грыбамі. Гэта была вялікая й прыемная неспадзяванка, бо ў Літве такія прысмакі бывалі толькі хатняга вырабу. Для мясцовага спажыўца яны былі задарагія, а я штодня набываў слоік і ласаваў грыбы разам з прывезенай з Коўна кілбасою й кумпяком. Тузін слоікаў я прывёз у Вільню.

Хоць Менск — старажытнае места Беларусі і яе сталіца, дзе жыве 300 000 чалавек, аднак ніякіх гістарычных помнікаў тут не захавалася, нават з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Да 1940 г. у ваколіцах Менску было колькі літоўскіх вёсак, у якіх жылі некалькі тысячаў чалавек, выходзіла літоўская газэта, а В.Капсукас і З.Ангарэціс выдавалі літоўскія кнігі. Аднак пасьля акупацыі Літвы ўся літоўская дзейнасьць у Беларусі спынілася, а саміх літоўцаў пачалі асыміляваць.

Усе каталіцкія бажніцы ў Менску былі зачыненыя, іхныя вежы зруйнаваныя, а ўсярэдзіне абсталяваныя розныя майстэрні, склады альбо гаражы. Адзіным культурным адхланьнем былі Опэра й драматычны тэатар. Палац Опэры, толькі што пабудаваны, быў даволі прасторны і ўтульны. Яго наведнікі — збольшага службоўцы альбо рабочыя зь сем'ямі. Кінулася ў вочы, што ўсе трымаліся прыгожа й годна, безь дзікунскага энтузіязму, як, скажам, на Захадзе, дзе пасьля кожнае арыі крычаць і пляскаюць у ладкі. Я паслухаў некалькі опэраў, пераважна расейскіх кампазытараў. Хоць Менскі опэрны тэатар ня меў вядомых салістаў, аднак ягоныя пастаноўкі былі высокага ўзроўню. Наведваў я і драматычны тэатар. Мяне дзівіла, што ў камуністычнай дзяржаве ставілі п'есы вядомага гішпанскага драматурга, манаха Лопэ дэ Вэгі, у той час як у каталіцкай Літве не было пастаўлена ніводнай ягонай п'есы.

Праз два тыдні, вывучыўшы мэтады геалягічнага плянаваньня, я вярнуўся ў Вільню.

* Паводле БСЭ — Л.-А. Строліс, Вітаўтас Кайрукшціс, А.-М. Гудайціс.

ARCHE
СКАРЫНА
АНАЛІТЫКА ЭСЭІСТЫКА КРЫТЫКА РЭЦЭНЗІІ

НОВЫ "СКАРЫНА"

**Выйшаў з друку новы нумар часопісу "ARCHE-Скарына". У ім артыкулы:**

**Валерка Булгакаў** "Выбары прэзыдэнта крэолаў"

**Даніла Жукоўскі** "Пасткі на хайвэі постмадэрнізму"

**Анатоль Сідарэвіч** "Лісты марксіста"

**Амандзіна Рэгамэ** "Аляксандар Лукашэнка і беларусы ў люстэрку анэкдотаў"

**палеміка Алена Бэзансона і Марціна Малі** "Ці належыць Расея да Эўропы?"

**Даніэль Бавуа** "Палітыка *vs* Гісторыя між Усходам і Захадам"

**Юлія Канцэвіч, Сяргей Сматрычэнка** "Летаргія беларускай лінгвістыкі"

**Віржынія Шыманец** "Аўтарытарныя культуры"

**Валеры Пазьнякоў** рэцэнзуе кнігу А.Лакоткі "Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры", **Леанід Галубовіч** – "Адам Клакоцкі і ягоныя цені" І.Бабкова, **Павал Абрамовіч і Генадзь Туровіч** – "Любіць ноч – права пацукоў" Ю.Станкевіча, **Уладзімер Сакалоўскі** – "Вырваны з агню" В.Мюлера. **Барыс Ляпешка** палемізуе з В.Булгакавым. Сканчаецца нумар новымі вершамі **Алеся Аркуша.**

**У нумары 120 старонак. "Скарына" ўсё таўсьцее і таўсьцее.**

*Пытайцеся ў кнігарнях і шапіках "Белсаюздруку"*

НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон

# Гомельскія лімэрыкі

## ГОМЕЛЬСКІЯ ЛІМЭРЫКІ

Бомж з-пад танку на плошчы Паўстаньня
марыць з кубачкам кавы штораньня:
"Зробім танку рамонт,
і тады — поўны ход —
каралеўскае, блін, паляваньне..."

Камуніст з Гаспадарчай Алеі
пазабыўся, што значыцца "Ленін",
ноч вагаўся бядак:
ці тампон, ці шампунь,
ці то якасны крэм для галеньня.

РНЕшнік смаркаты зь Сяльмашу
летуціць пра вялікую Рашу.
Толькі мама ізноў
яго кліча дамоў:
"Захалоне вячэра, Абраша!"

Чарнабровая *girl* з Хатаевіча,
двох хлапцоў абяцанкамі цьвелячы,
не рашыцца ніяк:
любіць Шніпа й сабак,
возіць сена дадому із лецішча.

Нізкавокі кіроўца з Хмяльніцкага
згледзеў дзеўку з харошымі цыцкамі.
Не ўпісаўся ў віраж
і цяпер пра пасаж
баіць горкую праўду мужыцкую.

Прадавачка марозіва з Пушкіна
вельмі спрытна настройвае вушкі на
любы камплімэнт,
ды ў рашучы мамэнт
кавалерам памахвае ручкаю.

Патрыёт з "40 год БССР"
павагаўся й набыў нэсэсэр.
А цікаўны сынок,
назву чуўшы ня ў толк,
у набытак банальна насер.

Візажыстка таўсматая з Ланге
сваім целам лякала Палангу,
ды балтыйскія хвалі
цела ўсё ж абмывалі
з фронту, з тылу і з кожнага флянгу.

Адналюб літаратар з Прудка
ад фартуны чакае квітка
на шчасьлівы цягнік,
хоць, папраўдзе, прывык
заставацца заўжды ў глумаках.

**Сяргей Балахонаў**





***ШАНОЎНЫЯ БАЦЬКІ!***
Тых, хто жадае даць сваім дзецям хрысьціянскае выхаваньне, навучыць асновам Бібліі, Менская Рэфармацкая Царква запрашае ў
**ЭВАНГЕЛЬСКУЮ НЯДЗЕЛЬНУЮ ШКОЛУ**
**для дзяцей 7-9 гадоў.**
Акрамя вывучэньня Бібліі будуць праводзіцца заняткі ангельскай мовы, навучаньне сьпевам, краязнаўчыя экскурсіі.
Запіс у школу праз тэл.: 270-31-47 і 258-99-28
**ЗЫЧЫМ БОЖАЕ ЛАСКІ!**



Скрыні 220037 а/с 49 і 220116 а/с 123 **Арганізацыі "Край" ня дзейнічаюць.** Просім зьвязвацца праз электронную пошту spa_kraj@hotmail.com



**Беларускае відэа, аўдыё, CD у Гомелі:** Піянэрскі сквэр (ля цырку) — штонядзелю да 13.00, штодня — праз тэл.: 45-11-51



**Прадаю:**
Кнігі — поштай: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030, Менск-30, а/с 195, Яну; jancit@tut.by; Тэл.: 258-43-54.



Ісус сказаў яму: "Я і дарога, і праўда, і жыцьцё. Ніхто не прыходзе да Айца, калі ня церазь Мяне". Іаан. 14:6
БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА
Набажэнствы штонядзелю ў Менску а 10-й: Любімава 21-56. Т. 279-71-31, 270-89-87. Штонядзелю ў Асіповічах а 17-й: Леніна, 40. Т. 20-840. Штачацьвер у Барысаве: Ватуціна 38-45. Т. 54-908; штачацьвер у 17.30 у Маладзечне: Асіпенкі 54. Т. 3-18-76


## Прыватныя абвесткі



### вітаньні

**Віншую Williams** і Х.-П.Мантою з бліскучай перамогай у Гран-пры Італіі-2001!

**Шаноўнаму юбіляру Нілу Гілевічу**
Каб бачыць Бацькаўшчыну вольнай,
заможнай, сьветам паважанай,
твары, Паэта, покуль здольны,
будзі народ наш ашуканы...
Ігар Паўлоўскі ад Грамады беларускай культуры імя Ф.Скарыны (Масква)

### для дзетак

**Запрашаем дзетак** 4—6 гадоў у гурткі раньняга разьвіцьця і падрыхтоўкі да школы. Т.: 213-43-52 (з 11-й да 19-й), 228-68-91, 260-28-13 (пасьля 20-й)

**Ідзе набор** беларускіх дзетак у ясельную групу. Т.: 251-95-90 (Марыя)

### ідэі

**Бэрні Эклстоўн!** Запрашаю Вас у Менск! Абмяркуем праект будаваньня трасы "Формулы 1" у Беларусі. Шумахер А.

**Выказваем спачуваньні** сваякам і цёзкам Лукашэнкі: вашае прозьвішча будзе скланяцца цягам яшчэ пяці гадоў. Нескланяльныя

**Алесю Вольны!** Успомні пра сваё абяцаньне і напішы ліст. Алена

**"І была ў думках** ягоных толькі яна, прыгожая, разумная, пяшчотная..." Урывак з эсэ "Рыжая". Эколяг з ГрДУ

**Алха й Кузя**, ганьба вам за здраду мове й Беларусі! Памятайце: Хто, калі ня мы?! Былыя лунінецкія Ліцэісты (БНПЮП)

### мяняю

**Абмяняю каляровыя плякацікі** ст.ФПБ У.Ганчарыка на каляндарыкі з нацыянальнай сымболікай. Т.: (у Рэчыцы): 2-36-41 (Зьміцер)

### набуду

**Набуду печ СВЧ** б/у ў добрым стане. Т.: 544-42-14 (Генадзь)

**Набуду дзіцячую** раскладную канапу ў добрым стане. Т.: 544-21-63 (Марына)

**Набуду радыётэлефон** б/у ў добрым працоўным стане. Т.: 544-42-14 (Генадзь)

**Набуду "ARCHE"**, прысьвечаны Адаму Глёбусу. Вельмі патрэб-н.а. Т.: (213) 9-15-17 (Гухавіцкі раён)

### кнігі, музыка

**Падкажыце**, дзе можна набыць відэакасэту з "Рок-каранацыяй'2000" г. Т.: 253-48-24 (ад 19.00 да 21.00)

**Набуду "Беларускія летапісы і хронікі"** зь "Беларускага кнігазбору" (у добрым стане). 230026, Горадня-26, а/с 72

**Хоць бы хто наладзіў** прэзэнтацыю ARCHE ў Віцебску. Засумавала за Вамі. Вольга

### праца

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце. Добры прыбытак! Ад Вас капэрта са зв/а: 210041, Віцебск, а/с 6

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана. Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск, а/с 122

### хата

**Прадам у Рэчыцы дом** з газавым ацяпленьнем. Т.: (у Рэчыцы): 2-36-41 (пасьля 20-й). Марыя Антонаўна

### net

**Электрычнасьць XXI** ст.: http://fenomena.fromru.com

**"SPECTRA" і спэктры.** Праграма (freeware) і база зьвестак: http://spectra.fromru.com

**Праект перагляду ДАСТ-19880** "Электратэхніка. Асноўныя паняткі": http://termin.hut.ru

### здымем кватэру

**Маладая сям'я здыме аднапакаёўку** ў Менску. Гарантуем парадак, магчымая перадаплата. Тэл. 262-07-70 (х), 263-47-95, 223-31-07

**Прасаловіч і яго дзяўчына шукаюць аднапакаёўку** з тэлефонам і хоць мінімумам мэблі. Адскрабу ад сэрца і мазалёў ня больш за 60 у.а. Пэйджэр 207-00-00, аб. 16271

**Сям'я здыме** двухпакаёвую кватэру ў Цэнтральным раёне Менску. Т.: 250-00-89, пэйдж.: 206-75-75, аб.2017

## Водгукі

# Не зьневажайце Малафеева



**У сваім артыкуле "Мірыцеся безь зьнявагі" ("НН", №37) Кастусь Травень развважае, чаму беларусы прайгралі ўкраінцам. Аўтар піша, што Малафееў спрабуе скласьці ўсю віну за паразу на Бялькевіча з Хацкевічам. Не такой натуры чалавек наш трэнэр, каб на кагосьці зваліваць віну, ён разумее, што выйграе каманда, а прайграе трэнэр. Дый пасьля матчу з Украінай ён сказаў: "Зь сябе віны за пройгрыш я не здымаю".**

Пасьля Травень піша пра "гульню ад абароны", у якую павінны былі гуляць беларусы, каб дамагчыся "запаветнай" нічыёй. Чаму гэтая нічыя для нас запаветная? Каб заняць першае месца ў групе, нам трэ было перамагаць і ўкраінцаў, і палякаў, і валійцаў. Калі ж мы займаем другое месца ў групе, то за выхад на сусьветнае першынства мусім змагацца з Ангельшчынай ці Нямеччынай. Малафееў гэта дакладна разумеў і сьвядома пайшоў на актыўную гульню, іншая справа, што нападнікі падвялі.

Бялькевіча з Хацкевічам выключыць назаўсёды са зборнай быў павінен яшчэ Бароўскі, калі перад адказнай сустрэчай з эстонцамі "зоркі" пайшлі "культурна адпачыць" зь півам. Бароўскі выключыў іх тады, але пад ціскам грамадзкасьці вярнуў гульцоў у зборную. А Малафееў ня верне. Таму людзям з нашай футбольнай фэдэрацыі не падабаюцца такія асобы, як сп.Эдуард. Ім патрэбны чалавек, якім лёгка было б маніпуляваць. Фэдэрацыю не хвалюе, што зборная на задворках футбольнае Эўропы!

І Бялькевічу з Хацкевічам, і БФФ далёкія патрыятычныя памкненьні Эдуарда Малафеева.

**Зьміцер Панкавец, Кастрыца (Барысаўшчына)**

# Горад мёртвых

**У працяг чарнобыльскай тэмы з нумароў ад 25 красавіка і 24 верасьня.** ***Барысу Тумару прысьвячаю.***



Трагедыя простага чалавека — будзённая зьява, нікому не цікавая. А вось трагедыі ўладароў заўсёды вабяць вока і слых, прыцягваюць увагу кветкамі, афіцыйнымі нэкралёгамі, урачыстымі пахаваньнямі, спачуваньнямі сяброў... Калі памірала жонка Гарбачова, мас-мэдыі данесьлі да кожнага адчай і змаганьне гэтай сям'і са страшэннай хваробай. Дачка Гарбачова на ўвесь сьвет запыталася: "Завошта на нашу долю выпала гэткае выпрабаваньне?" Бо зь ейнага пункту гледжаньня маці — слабая жанчына, муху ня здольная пакрыўдзіць. Але калі кіруеш лёсамі мільёнаў людзей, дык рыхтуйся трымаць адказ за свае ўчынкі...

Чарнобыльская трагедыя прыпала на самы пачатак кіраваньня Гарбачова. Яго турбаваў лёс перабудовы, а не канкрэтных людзей. Ён мог бы сказаць словы перасьцярогі, дазволіць навукоўцам рэкамэндаваць мінімальныя сродкі прафіляктыкі і такім чынам паменшыць кола апраменёных. Але генсак выявіўся няздольным нават паспачуваць. Верхам зьнявагі да тых, хто застаўся жыць у зоне, сталіся ягоныя чаравікі, пакінутыя ў Гомельскім аэрапорце пасьля наведаньня забруджаных радыяцыяй раёнаў. Невядома, у якой ступені віна за ўсё гэта ляжыць на ягонай жонцы, але, несумненна, калі стаяла пытаньне: захаваць уладу ці людзей — Гарбачовы абіралі першае. І прынесьлі ў ахвяру сваім амбіцыям перш за ўсё Гомель.

Вось афіцыйныя дадзеныя пра колькасьць жыхароў Гомеля: 01.01.1985 г. — 465000, 01.01.1987 г. — 488000, 12.01.1989 г. — 497500, 01.01.1995 — 507000, 01.01.1997 г. — 501000.

Такім чынам, з 1985 да 1995 г. насельніцтва Гомеля павялічылася на 42 тысячы чалавек, а за 1995—97 г. скарацілася на 6000 жыхароў. А куды падзеліся дзясяткі тысячаў перасяленцаў, што пераехалі ў Гомель у 91-м, пасьля прыняцьця Закону "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС"? Каб атрымаць адказ, дастаткова павандраваць па могілках (Асаўцы, Рандоўка і інш.), якія імкліва растуць і пашыраюцца.

За Саветамі ў Гомелі сялілі адстаўнікоў з усяго Саюзу, рангам не ніжэй за палкоўніка. Яны таксама зрабіліся закладнікамі Чарнобылю.

Статыстыка ахвяраў аварыі засакрэчаная, і пра сапраўдныя ейныя маштабы можна толькі здагадвацца. Дактары ў прыватных размовах кажуць, што ім забаронена выносіць дыягназ, які нейкім чынам стасуецца з наступствамі Чарнобылю. Звычайна ў пасьведчаньні інваліда пазначана: "агульнае захворваньне".

Здаецца, няма сёньня на Гомельшчыне сям'і, якая б не сутыкнулася са страшнай хваробай пад назвай "рак". Вось некалькі прыкладаў — ад бліжэйшых сяброў, бо ня кожны можа распавесьці пра сваё гора, ня кожны мае сілу волі з пэўнай доляй самаіроніі казаць пра сваё, цалкам інтымнае:

В.П. — маці памерла ў 1994 г. — пакутавала на рак маціцы.

М.М. — бацька памёр у 2000 г. — пакутаваў на рак горла.

Г.Э. — памёр у 2000 г. ад раку простай кішкі.

А.М. — цешча памерла толькі што ад раку малочнай залозы...

Сёньня тыя, хто засталіся, адчуваюць сябе загнанымі ў куток. Адны добра ўсьведамляюць, што іхны век будзе нядоўгім. Дачцэ не наканавана перажыць маці, а ўнуку — бабулю. Большасьць вымушаная штодня карыстацца пігулкамі з загадкавым назовам *"tamoxifen"*. Другія пасьпелі зьбегчы ў краіны блізкага і далёкага замежжа, але ўсё роўна вяртаюцца хоць раз на год, на Радаўніцу, каб наведаць могілкі. Голас крыві мацнейшы за небясьпеку. Трэція топяць сваё гора ў гарэлцы... Дзяржава цікавіцца імі толькі ў часе чарговых выбараў. Чацьвертыя кажуць, што падставаў для хваляваньня няма. Але нешта ніхто ня рвецца прыехаць жыць да нас. Кватэры ў Гомлі ў колькі разоў таньнейшыя, чым, скажам, у Горадні. Дый Гомельскі замак ня горшы за Гарадзенскі, і краявіды таксама... Ласкава запрашаем.

**Нябожчык, Гомель**

## Паштовая скрынка



**Арцёму В. зь Менску.** Малюнак недасканалы і злы. Злыя малюнкі зазвычай нясьмешныя.

**Паўлу зь Менску.** Пішаце, што выбары адабралі ў Вас веру ў Беларусь. Дык і слабая ж Ваша вера была!

**Аляксандру Б. з Садкоў.** Думак у Вас многа, але выкладаеце іх усе разам. Пастарайцеся выкладаць іх пасьлядоўна.

**Кастусю В. зь Нью-Ёрку.** Надрукаваць Ваш ліст ня можам, бо пра гэта ў Беларусі шмат пісалі апошнія 15 год.

**Тодару К. зь Менску.** Тэкст Ваш для газэты заскладаны.

**Кацярыне С. зь Менску, Зьмітру Ц. З Рэчыцы.** Вашыя лісты ў рубрыку "Беларусь праз сто гадоў" утрымліваюць крыху зашмат агульнае інфармацыі, але чыталі мы іх з задавальненьнем. Прыемна чытаць тэксты, напісаныя з такой верай у Беларусь.

**Яўгену М. зь Менску.** Дзякуй за камплімэнты на адрас "НН" ды "тарашкевіцы", але допіс Ваш надрукаваць ня можам — каталікі пакрыўдзяцца. А яны ж ня горшыя ад праваслаўных.

## Жарт





**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| карэктар | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| нам. галоўнага рэдактара | Сьвятлана Курс |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


© **НАША НІВА**.
Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 4463.
Нумар падпісаны ў друк 30.09.2001.
Замова № 5640.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а